Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE ¢ 50

Post Address: BIELARUS P. O. Box 109 Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XIX. № 129 | Студзень 1968. | NEW YORK — TORONTO | January 1968. | Vol. XIX. № 129

## ЭКАНОМІКА БЕЛАРУСІ Ў 1967 ГОДЗЕ

Няўхільнаю й нястрымнаю хадою яшчэ адзін год дайшоў да свайго рубяжа, кончылася яшчэ адна мерка часу ў жыцьці кажнага з нас упаасобку ды ў летапісе цэлага нашага народу. Цяпер якраз адпаведны мамэнт, каб зрабіць некаторыя падлічэньні, паспрабаваць адказаць на пытаньне: чым гэны год быў для Беларусі?

Год 1967 быў годам, як ведама, 50-га юбілею Кастрычніцкае рэвалюцыі. Быў ён таксама годам 450-га юбілею беларускага друку. І затым вось ацаніць яго трэ было-б, як некаторыя кажуць, „па вялікім рахунку". Гаворка пра „вялікі рахунак" у выпадку Беларускае савецкае рэспублікі тым больш актуальная, што сёлетні год пройдзе пад знакам яшчэ аднаго важнага юбілею — 50-годзьдзя абвешчаньня БССР.

Калі шукаць галоўнае характэрнае асаблівасьці жыцьця Савецкае Беларусі на працягу 1967 году, дык ці ня былі ёю гаворкі й клопаты пра „рост матар'яльнага дабрабыту" — рост ува ўсіх роўніцах: асабістай, калектыўнай, нацыянальнай.

У гутарках на гэтую тэму — у афіцыйных заявах і дакладах лектароў — клаўся галоўны націск на тое, што матар'яльны дабрабыт быццам расьце, так сказаўшы, зьнізу: значыцца, селянін і работнік павінны ахватней закасваць рукавы, шчырэй працаваць, пільней вартаваць дзяржаўную маёмасьць, і тады павялічыцца іхны матар'яльны дабрабыт.

Калі ў гэтым і ёсьць праўда, дык далёка ня ўся. Кажны бо гаспадар ведае, што калі ў сьвіран зносіць набытак праз адныя дзьверы, а хтосьці сыстэматычна выцягвае яго праз другія, дык дабра ў засеках ніколі ўдосыць ня будзе. Праўду гэтую ведае кажны калгасьнік, кажны работнік, інтэлігент рэспублікі. Праўду гэтую ведаў і Старшыня Савету Міністраў БССР Ціхан Кісялёў, калі напярэдадні 1967 году спрабаваў якраз прычыніць крыху гэныя другія дзьверы, праз якія матар'яльнае дабро выцякае з рэспублікі. На другой сэсіі Вярхоўнага Савету СССР сёмага скліканьня ў Маскве ў сьнежні 1966 году старшыня беларускага ўраду заяўляў:

„Вопыт работы прадпрыёмстваў дазволіў выявіць некаторыя нявырашаныя пытаньні. **Перш за ўсё недастатковыя нарматывы адлічэньняў ад прыбытку для асобных прадпрыёмстваў.** Як вядома, за кошт прыбыткаў прадпрыёмствы ствараюць **фонды разьвіцьця вытворчасьці, жыльлёвага й сацыяльна-культурнага будаўніцтва".**

Старшыня Савету Міністраў БССР дамагаўся ў Маскве, каб хоць у некаторай меры перавесьці Беларускую рэспубліку із статусу пастачальніцы сыравіннага матар'ялу, сельскагаспадарскіх паўхвабрыкатаў ды работніцкіх рук для прамысловасьці на экспарт, у рэспубліку із закончанай структурай прамысловасьці, што дало-б магчымасьць перарабляць самім сваю сыравіну ды ў большай меры карыстаць самім із сваіх прыродных багацьцяў, із свае працы.

Хоць і ня зусім у гэткіх словах, але ў гэткім сэньсе старшыня беларускага ўраду казаў у Маскве на згаданай ужо сэсіі Вярхоўнага Савету СССР:

„З ростам вытворчасьці сельскагаспадарскай прадукцыі ў рэспубліцы ствараюцца цяжкасьці зь яе прамысловай перапрацоўкай. Напрыклад, склалася неадпаведнасьць паміж ростам вытворчасьці й наяўнасьцю магутнасьцяў па перапрацоўцы малака й мяса, **у выніку чаго калгасы й саўгасы церпяць страты,** зьніжаецца якасьць прадукцыі. **У рэспубліцы адчуваецца вялікі недахват халадзільных ёмістасьцяў".**

Пра багацьце й дабрабыт Беларусі часта маюць сьветчыць у афіцыйных заявах, як прыкладам у газэце „Зьвязда" за 2 красавіка 1967 году гэткія паказальнікі: „Беларусь займае ў Саюзе першае месца па выпуску вялікагрузных машынаў і сіласаўборачных камбайнаў, другое — па вытворчасьці аўтаматычных лініяў, грузавых аўтамабіляў, фанеры, ільнавалакна", і да гэтага падобнае. Але што з таго народнаму дабрабыту, дабрабыту грамадзяніна-пакупніка й спажыўца, што (як падавала тая-ж „Зьвязда") „беларускія трактары працуюць больш чым у 50 зарубежных краінах, аўтамабілі — больш чым у 40, мэталярэзныя станкі — больш чым у 60"? У выніку падпарадкаванасьці бальшыні прадпрыёмстваў Беларусі ўсесаюзным міністэрствам і ведамствам у Маскве, рэспубліка ня мае кантролю над сваім дабром і ня мае патрэбнае магчымасьці ўзьняць дабрабыт свайго жыхарства.

Ці было што-небудзь зроблена на працягу 1967 году, каб „нарматывы адлічэньняў ад прыбытку" для Беларусі былі пабольшаныя? Беларускай грамадзкасьці нічога ня ведама пра гэта. Ніякіх канкрэтных статыстычных дадзеных пра гэта ўрад не падае. Гаспадарка рэспублікі ўсьцяж вядзецца так, што народ ня ведае, колькі дабра йдзе ў нацыянальны сьвіран, а колькі зь яго выцягваецца. Ведама адно, што й цяпер на Беларусі маса школаў без адпаведных памешканьняў, настаўнікаў без кватэраў, вёсак бяз студняў і лазьняў, машынаў без запасных частак і прадпрыёмстваў без машынаў.

У газэце „Зьвязда" за 12 сьнежня 1967 году на першай балоне таўстым шрыфтам выведзенае паасобнае прызнаньне, якое аднак характарызуе бадай увесь стан беларускае эканомікі: „Па спажываньню элекраэнэргіі на аднаго работніка саўгасу, напрыклад, Беларусь знаходзіцца **на 13-ым месцы сярод іншых рэспублік".** Значыцца, у галоўным сэктары эканомікі Беларусі, у галіне сельскае гаспадаркі, у галоўным аспэкце яе — у здольнасьці самой перапрацоўваць свае прадукты — нічога не зьмянілася ад таго часу, калі старшыня ўраду БССР прасіў у Маскве даць Беларускай рэспубліцы гэткую магчымасьць. Бо-ж, як ведама, без адпаведнае электраэнэргэтычнае базы ніякіх зьменаў на лепшае быць ня можа.

Старшыня Савету Міністраў Беларускае ССР Ціхан Кісялёў перад пачаткам 1967 году казаў на сэсіі Вярхоўнага Савету СССР у Маскве пра патрэбу „разглядзець пытаньне аб павялічэньні разьмераў пакіданых у распараджэньні Саветаў Міністраў рэспублік даходаў ад рэалізацыі выпушчаных дадаткова да пляну тавараў народнага спажываньня. Мэтазгодна, — казаў ён, — даць права Саветам Міністраў саюзных рэспублік частку такіх даходаў накіроўваць на паляпшэньне культурна-бытавога абслугоўваньня насельніцтва".

У гэтай аснове асноваў жыцьця рэспублікі — у пытаньні права на большы ўдзел у выкарыстаньні свайго дабра дзеля забясьпечаньня матар'яльнага й культурнага дабрабыту жыхарства — 1967 год, нажаль, прынёс невялікія здабыткі.

Бо калі дваццаць два гады па сканчэньні вайны 70 сем'яў вёскі Стрэльск на Палесьсі змушаныя здабываць сабе пітную ваду, ходзячы за паўкілямэтра зь вёдрамі й каромысламі да ракі Прыпяць; калі сельскім настаўнікам даводзіцца разрывацца між абавязкамі ў школе й капаньнем свае прысядзібнае дзялянкі, каб пракарміцца; калі шмат якія з гэтых настаўнікаў ня маюць навет прыстойнага асобнага пакойчыку ў сялянскай хаце, каб магчы належна рыхтавацца да ўзгадаваньня маладога пакаленьня Беларусі, — дык трэба моцна задумацца, ці партыя, што трымае ў сваіх руках долю Беларусі, заслугоўвае на гэткую пахвалу, якую ёй прыслужліва прыпісваюць перадавіцы савецкіх газэтаў.

**Я. Запруднік**

### ЗАВОДУ „ФІЯТ" У МЕНСКУ НЯ БУДЗЕ

Цераз Польшчу й Канаду дайшла да нас адна вестка-дэталь, што мае дачыненьне да тэмы эканамічнае эксплуатацыі й каляніяльнага статусу Савецкае Беларусі.

Беларускі савецкі ўрад дамогся быў ад усесаюзнае мэтраполіі, каб аўтамабільны завод фірмы „Фіят" будаваўся ў Менску. Ня доўга цешыліся эканамістыя Беларусі. Маскоўская бюракратыя, што трымае ў сваіх руках долю саюзных рэспублік, адумалася. Беларусам аддаваць новы аўтамабільны завод? Абыдуцца. Аўтазавод фірмы „Фіят", на будову якога выдаткоўваецца 890 мілёнаў даляраў і які будзе выпушчаць 730.000 аўтамабіляў на год, будуецца цяпер у горадзе Тальятыград у РСФСР.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ СТАТУС БССР

На паховінах „галавы" беларускае савецкае дзяржавы, Старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР, Героя Савецкага Саюзу Васіля Казлова (памёр на 65-м годзе жыцьця 2 сьнежня 1967 г.) з разьвітальнымі прамовамі выступалі сакратар ЦК КПБ Ф. Сурганаў, першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў, работнік менскага радыязаводу К. Тамашэўскі, намесьнік старшыні Савету Міністраў БССР У. Лабанок і першы сакратар Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Максім Танк.

З рэпартажу радыя Менск пра паховіны В. Казлова, перададзенага 4. XII. 1967 г., відаць, што ўсе ўрадавыя кіраўнікі БССР разьвіталіся зь нябожчыкам Казловам парасейску, за выняткам прадстаўніка беларускае пісьменьніцкае арганізацыі М. Танка, якому йшчэ можна пры гэткіх нагодах, як пахаваньне галавы беларускае савецкае дзяржавы, карыстацца роднай мовай.

## 1968 ГОД=ЮБІЛЕЙНЫ ГОД БНР

На працягу амаль трох апошніх год, асабліва на працягу 1967 году бальшавіцкая прапаганда намагалася пераканаць падсавецкія народы, а так-жа ўвесь Вольны Сьвет аб „нячуваных у гісторыі людзтва" савецкіх дасягненьняк ува ўсіх галінах народнага гаспадарскага й культурнага жыцьця, што быццам прынесла сыстэма сацыялістычна-камуністычнага ладу.

Як цыганскія скамарохі, праводзячы праз лес мядзьведзя, у страху каб той не пачуў ляснога шуму і паху дарагога яму смольнага паветра ды не сарваўся з ланцуга, арганізавалі ўвесь свой цыганскі карагод як наймацней рэзаць у гармонік, біць у бубны, званіць скавародамі, — гэтак і карагод камуністычнай прапаганды акампаньяваў свайму 50-гадоваму юбілею „вялікага Кастрычніка". У самазахапленьні да няпрытомнасьці, асабліва з нагоды свайго юбілею, цынічна перайначвалі бальшавікі сэнс агульналюдзкіх паняцьцяў: свой нялюдзкі дэспатычна-тэрарыстычны рэжым яны расхвальвалі на ўвесь сьвет, як найпраўдзівейшую адзіную ў сьвеце „дэмакратыю"; няволю называлі ўзорам свабоды; рэстаўраваньне сярэднявечна-фэадальнай каставасьці — бяскласавым грамадзтвам; сыстэматычную й пляновую русыфікацыю нерасейскіх народаў — бескарысьлівай дапамогай „старэйшага брата — вялікага рускага народу"; нацыянальны гэнасыдызм — найсправядлівейшым разьвязаньнем нацыянальнага пытаньня й брацкай „дружбай народаў".

Адразу пасьля гэткіх тамбурных праводзінаў 50-гадовага юбілею „вялікага Кастрычніка", цяпер прыступілі ўжо да падрыхтоўкі другога вялікага сьвята — 50-ых угодкаў ад стварэньня „ўпяршыню ў гісторыі" беларускага народу „сувэрэннай незалежнай беларускай дзяржавы" — БССР, дзякуючы таму-ж „вялікаму Кастрычніку, ленінскай нацыянальнай палітыцы, Камуністычнай партыі ды бескарысьлівай дапамозе вялікага расейскага народу".

Дарагія Суродзічы Эмігранты! Нікому гэтак добра, як нам, не зразумелы гэткі цынічны зьдзек акупанта над нашым паняволеным народам, і нікому гэтак ня блізкія, як нам, цярпеньні й перажываньні беларускага народу ў няволі расейскага камунізму. З другога-ж боку, ведаючы добра, як наважана, ахвярна й гэраічна змагаецца беларускі народ за захаваньне свае нацыянальнае самабытнасьці, свайго існаваньня, як народу й нацыі, я заклікаю Вас усіх — з пачаткам нашага 1968-га Юбілейнага Году — 50-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі — натужыць усе свае сілы, каб як найдастойней ушанаваць гэты наш запраўдны Вялікі Юбілей, запраўды сьвятыя ідэялы Беларускага Народу, запраўды выказаную волю Беларускага Народу 50 год таму.

Гэта былі запраўдныя нацыянальныя асьпірацыі й імкненьні Беларускага Народу, якіх ён не адрокся й да сяньня, а ў доўгім няроўным змаганьні нёс і нясе дзеля іхнага ўжыцьцёўленьня вялікія ахвяры.

Няхай наш вольны голас узмоцніць на духу нашых братоў на Бацькаўшчыне! Няхай іх усьцешыць, што сьцяг БНР ня вырваны з нашых рук! Голас наш, голас іх, голас усяго Беларускага Народу не заглушаны цырковым трэскам бальшавіцкіх скамарохаў. Няхай нашыя браты на Бацькаўшчыне й увесь вольны й волялюбны сьвет пабачыць і пачуе ў словах нашых і чынах нашую маральную сілу, нашую волю да жыцьця, нашую непераможнасьць у змаганьні.

Спыніце ў гэтым вялікім юбілейным годзе дробныя хатнія непаладкі ды züактывізуйце ўсе свае сілы дзеля дастойнага ўшанаваньня агульнанацыянальнага юбілею—50-ых угодкаў БНР!

Жыве Беларускі Народ у змаганьні!
Жыве БНР!

Нью Ёрк, 1 студзеня 1968

**Мікола Абрамчык**
**Прэзыдэнт Рады БНР**

## ПАДВОЙНЫЯ УГОДКІ Ў МЭЛЬБУРНЕ

Беларускі Камітэт у Вікторыі, з увагі на абставіны, зладзіў летась сьвяткаваньне 47-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня й 450-ых угодкаў беларускага друку разам. Урачыстасьць, хаця й сьціплая, была цікавая зьместам. Таму трэба шкадаваць, што шмат якія Беларусы, із сьвятарамі ўлучна, ня былі прысутныя.

Паніхіду за Случчакоў і ўсіх змагароў за Беларусь адслужыў а. Кулакоўскі ў БАПЦаркве ў нядзелю 26 лістапада.

Акадэмія, прысьвечаная абодвым вялікім угодкам, адбылася ў наступную нядзелю 3 сьнежня ў ведамай Беларусам Мэльбурну залі на Футскрэй. Сьцягі беларускі й аўстралійскі, вялікая Пагоня, шмат кветак ды наладжаная ў гэты дзень выстаўка беларускіх кніжак, газэтаў і кружэлак падчырквалі таксама важнасьць урачыстасьці. Тым, што ўваходзілі ў залю, як і заўсёды, сп-ні Шайпак і Тарашкевіч прышпілялі нацыянальныя сьцяжкі з жалобай.

Акадэмія пачалася аўстралійскім гімнам, прапяяным мяшаным хорам у народных вопратках пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча. Адчыніў акадэмію чародны старшыня Камітэту сп. М. С. Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. У. Сідлярэвіч. Пасьля рэфэрату хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць усіх змагароў за Беларусь. Урачысты настрой паглыбіла песьня „Сьпі пад курганам гэрояў" у выкананьні хору.

Пасьля першай часткі акадэміі сп. А. К. прачытаў свае „нататкі", прысьвечаныя 450-ым угодкам беларускага друку. У іх ён насьвятліў вялікую гістарычную культурную ролю Францішка Скарыны ды коратка паінфармаваў пра сьвяткаваньні ягонага юбілею на бацькаўшчыне й на чужыне.

У далейшым сп. Розмысл у гарачых словах прыпомніў пра надыходзячыя 50-ыя ўгодкі Сакавіковага Акту й заклікаў прысутных, а праз іх і ўсё грамадзтва, дапамагчы Камітэту годна ўшанаваць гэтыя вялікія ўгодкі. Пасьля гэтага прапяяныя хорам дзьве новыя песьні: „Ой, пайду я, пайду" і „Поле" ды цікавы рэпартаж „Бацькаўшчына на чужыне" з магнітафоннай стужкі, атрыманай з ЗША. дазволілі старэйшым прысутным глыбака перажыць успаміны з Бацькаўшчыны, а малодшым — бліжэй „дакрануцца" беларускай праблемы. Песьняй „У садзе" ў выкананьні хору ды беларускім гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", прапяяным хорам і прысутнымі, была закончаная афіцыйная частка акадэміі.

Доўга йшчэ ў залі і каля яе на вуліцы вяліся гутаркі аб сьвяткаваньні. Не сьпяшаліся дамоў. Добрае надвор'е й нагода спатканьня із знаёмымі затрымлівалі людзей.

**М. Н.**

**Хто жадае далейшага разьвіцьця роднага друкаванага слова, той ня толькі своечасна адновіць падпіску на „Беларуса", на 1968 год, але й прыдбае што найменш аднаго новага падпішчыка.**

### ПРЫЕЗД ПРЭЗЫДЭНТА РАДЫ БНР СП. М. АБРАМЧЫКА Ў АМЭРЫКУ

30 сьнежня 1967 г. прыляцеў з Парыжа ў Нью Ёрк Прэзыдэнт Рады БНР сп. Мікола Абрамчык. Сп. Прэзыдэнт адведае некаторыя амэрыканскія ўстановы, пабывае ў беларускіх асяродках ЗША й Канады ды правядзе чародную сэсію сяброў Рады БНР.

### УГОДКІ КУПАЛЫ Й КОЛАСА Ў НЬЮ ЁРКУ

Управа Ньюёркаўскай Акругі БАЗА зарганізавала ў нядзелю 10 сьнежня ў залі Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ўрачысты вечар з нагоды 85-ых угодкаў ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Праграма вечару складалася з дакладу д-ра Ст. Станкевіча пра Купалу й Коласа, чытаньня й дэклямацыяў вучнямі суботняй беларускай школы й дарослымі вершаў Купалы й Коласа ды дуэтнага выкананьня сп-няй Алай Рамано й сп-чняй Галінай Орса дзьвюх песьняў на словы Купалы „Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні" й Коласа „Закліканьне вясны".

Падчас вечару вісеў адмыслова да юбілею намаляваны мастаком Пётрам Мірановічам прыгожы каляровы патрэт Я. Купалы.

### ПІЛІГРЫМКА Ў СЬВЯТУЮ ЗЯМЛЮ

Япархіяльная Управа БАПЦарквы арганізуе сёлета на Вялікдзень пілігрымку ў Сьвятую Зямлю. Ахвотных прыняць удзел у гэтай цікавай пілігрымцы просім зьвяртацца па ўсе інфармацыі на адрыс:

Very Rev. Stephan Wojtenka
78 Emerson Road
Somerset, N. J. 08873

# КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ БССР У 1967 ГОДЗЕ

На беларускім культурным жыцьці 1967 году цяжкое таўро палажылі 50-ыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі й падрыхтоўка да 100-х угодкаў ад нараджэньня Леніна. Партыя рабіла вяліка націск на тое, каб галоўная ўвага ў культурным працэсе была ўзятая на палітычны аспэкт гэтых угодкаў коштам усіх іншых аспэктаў, у першую чаргу коштам нацыянальнага аспэкту. Партыя рабіла вялікі націск на тое, сыўна, чымся перад гэтым, пазбавіць беларускую культуру ейнае нацыянальнае існасьці й падпарадкаваць яе сваім інтэрнацыянальным, фактычна-ж русыфікацыйным тэндэнцыям. З боку-ж бальшыні творцаў і працаўнікоў розных галінаў беларускай культуры праяўлялася ўвесь час адваротная тэндэнцыя: разьвіваць культурныя каштоўнасьці на сваёй нацыянальнай аснове й выяўляць нацыянальную існасьць роднае культуры. Пад знакам такога няроўнага змаганьня працякаў увесь 1967. год.

Ды ня толькі у сувязі з камуністычнымі ўгодкамі, але й незалежна ад іх партыйныя органы намагаліся поўнасьцяй падпарадкаваць культурны працэс сваёй палітыцы. Яшчэ ў канцы 1965 і пачатку 1966 году партыя, спалохаўшыся вынікаў дэсталінізацыі, павяла спробы рэглямантаваньня культурнага працэсу паводля сваіх палітычных меркаваньняў. У 1967 годзе тэндэнцыя гэтая яшчэ ўзмоцнілася. Гэтак калі ўдзельнікі 2-га зьезду кінаматаграфістых Беларусі, што адбыўся ў палавіне лютага 1967 году, патрабавалі, каб беларускае кінамастацтва ствраралася перш-наперш беларускімі рукамі, а не артыстымі з Ленінграду й Масквы, дык прысутны на зьезьдзе старшыня Камітэту кінаматаграфіі пры Савеце Міністраў БССР Б. Паўлёнак заявіў, што патрабаваньні такія пахнуць нацыяналізмам.

Не знайшлі зразуменьня ў партыйных вярхох і скаргі ўдзельнікаў 4-га зьезду Беларускага Тэатральнага Аб'яднаньня ў студзені 67 году, што тэатры Беларусі, ігнаруючы п'есы беларускіх аўтараў і ў бальшыні сваёй працуючы на расейскай мове, згубілі свой нацыянальны характар. Калі-ж маладыя беларускія гісторыкі спрабавалі ў сваіх працах глянуць аб'ектыўным вокам на гістарычную мінуўшчыну беларускага народу, дык сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч у студзеньскім нумары „Коммуниста Белоруссии" зьвінаваціў іх у „суб'етыўных перакосах і зрушэньні гістарычнай пэрспэктывы". Патрабаваньні беларускіх навукоўцаў, дзеячоў культуры й пісьменьнікаў, ведзеныя ад колькіх год, каб мецьь свае беларускія часапісы, перш-наперш краяведны, моваведны гістарычны й іншыя часапісы, засталіся бяз вынікаў і ў 1967 годзе.

Асабліва жалюгоднае было палажэньне з музэямі Беларусі, у якіх галоўна адлюстроўваецца рэвалюцыйная й нацыянальная расейская мінуўшчына, затое занядбоўваюцца пытаньні нацыянальнай мінуўшчыны беларускага народу, ягонага прафэсійнага й народнага мастацтва. Паводля інфармацыі газэты „Зьвязда" за 21 сакавіка '67 году, „у Беларусі створана больш як 500" музэяў Леніна, адчынены ў Кобрыне расейскі ваенна-гістарычны музэй імя Суворава, тады калі патрабаваньне стварыць Этнаграфічны музэй пад адкрытым небам, пастаўленае ў канцы 1966 году, было пакінутае бяз увагі. На 450-ыя ўгодкі беларускага друку ня было нат пастаўленае пытаньне стварэньня музэю Францішка Скарыны. Не зважаючы на частыя патрабаваньні, ня створаны дагэтуль і музэй Кастуся Каліноўскага.

Але нельга сказаць, каб у культурным жыцьці Беларусі былі ў 1967 годзе адны толькі цені. Былі й блескі, здабытыя настойлівымі стараньнямі беларускай творчай інтэлігенцыі. У выніку гэтых стараньняў, ведзеных ад колькіх год, былі зрэфармаваныя ў пазытыўным кірунку праграмы беларускай мовы й літаратуры ў школах Беларусі й быў значна збольшаны лік гадзінаў для выкладаньня беларускай літаратуры.

Найважнейшай культурнай падзеяй 1967 году было сьвяткаваньне 450-ых угодкаў беларускага друку й дзейнасьці Францішка Скарыны. Хоць сьвяткаваньне гэтае было праведзенае ў шмат вузейшым маштабе, чымся гэтага вымагала эпахіяльная роля Скарынавай дзейнасьці, усёж такі беларускімі культурнымі дзеячамі было яно выкарыстанае дзеля падчыркненьня высокага ўзроўню беларускай культуры ў тыя часы й дзеля падняцьця пачуцьця нацыянальнай гордасьці ў сучасьнікаў.

Значныя дасягненьні мела ў 1967 годзе мастацкая самадзейнасьць Беларусі. Праведзеныя ў сувязі з угодкамі раённыя, абласныя й рэспубліканскія фэстывалі мастацкай самадзейнасьці мелі, як ніколі перад гэтым, узапраўды масавы характар. Але й тут палітычная тэндэнцыя палажыла сваё адмоўнае таўро. Як паведаміў у верасенскім нумары „Маладосьці" намесьнік старшыні Беларускага Тэатральнага Аб'яднаньня Ул. Стальмашонак, на рэспубліканскім аглядзе спэктакляў народных тэатраў Беларусі было паказана больш расейскіх, чымся беларускіх п'есаў. Але найбольшым посьпехам карыстаўся беларускі нацыянальны рэпэртуар, а п'еса „Раськіданае гняздо" Янкі Купалы ў пастаноўцы Мазырскага народнага тэатру й опэра Д. Лукаса „Кастусь Каліноўскі" ў выкананьні народнай опэрнай студыі Менскага палацу прафсаюзаў былі вылучаныя для паказаў у Маскве.

Вялікія заслугі для беларускага песеннага мастацтва мела Беларуская акадэмічная харавая капэля пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, Беларускі Народны Хор пад кіраўніцтвам Генадзя Цітовіча й Ансамбль цымбалістых пад кіраўніцтвам Язэпа Жыновіча. Але вялікай перашкодай у дзейнасьці самадзейных, асабліва сельскіх хораў і ансамбляў — хранічная нястача нацыянальнага рэпэртуару, а апрацаваны Рыгорам Шырмам зборнік беларускіх народных песьняў для гэтых хораў ужо адзінаццаць год буцьвее ў папцы, бо ніводнае выдавецтва Беларусі ня мае адвагі выдаць яго друкам.

Бясспрэчным дасягненьнем 1967 году было збольшаньне тыражоў на беларускія кнігі й часапісы. У прыраўнаньні із станам яшчэ зь перад колькіх год таму, гэтыя тыражы ў сярэднім збольшыліся ўдвая. Вельмі паказальны наступны факт. У вадзначэньне 85-ых угодкаў ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа выдавецтвам „Беларусь" былі выдадзеныя аднатомнікі выбранай лірыкі абодвых паэтаў здвоенымі тыражамі — кніга лірыкі Купалы тыражом 16, а кніга лірыкі Коласа — тыражом 17 тысячаў экзэмпляраў. Як паведаміў часапіс „Беларусь", абедзьве кнігі „разышліся бадай што ў той-жа дзень, як паступілі ў кнігарні". Гэта адзін з довадаў, што беларускі чытач патрабуе беларускую кніжку й ахвотна яе купляе.

Нажаль, выдавецтвы Беларусі, за выняткам твораў мастацкай літаратуры, кнігі для Беларусаў выдаюць пераважна на расейскай мове, а выдавецтва „Навука і тэхніка" пайшло ўжо гэтак далёка ў ігнараваньні беларускай мовы, што навет беларусаведныя кнігі, за малымі выняткамі, выдае, як правіла, на расейскай мове.

Значныя дасягненьні мела ў 1967 годзе й мастацкая літаратура. Паводля агульнага падлічэньня, у 1967 годзе выйшла звыш сотні назоваў кнігаў новых твораў мастацкае літаратуры. Як на рэспубліку з жыхарствам звыш 8-ёх міліёнаў, гэтага мала, але ў прыраўнаньні зь некаторымі ранейшымі гадамі, гэта ўжо прагрэс. З прычыны ўспомненых угодкавых і неўгодкавых палітычных тэндэнцыяў, агульны мастацкі ўзровень беларускай літаратуры ў 1967 годзе ня змог дасягнуць узроўню гадоў найбольшага насіленьня дэсталінізацыі 64-га й 65-га, але ўсё-ж ён быў вышэйшы за ўзровень 1966 году.

Гэткім парадкам, незавідная была доля беларускай культуры ў мінулым годзе. Тэй-жа нашай творчай інтэлігенцыі, што, не зважаючы на суровыя палітычныя абставіны й русыфікацыйны ціск, усюды й заўсёды, дзе толькі можа, змагаецца за сваю нацыянальную культуру, належыцца вялікае прызнаньне.

**Ст Станкевіч**

# У ЯПАРХІЯЛЬНАЙ УПРАВЕ БАПЦ

У сыботу 30 сьнежня адбылося ў Нью Ёрку чароднае чверцьгадовае пашыранае паседжаньне Япархіяльнай Управы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

На паседжаньні быў прывітаны нававысьвячаны сьвятар БАПЦарквы а. В. Кендыш ды было прынятае да ведама назначэньне ягонае на сьвятара парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне — Нью Ёрку. У сувязі з атрыманьнем сп. Валентынам Гарошкам адвакацкіх правоў, быў ён запрошаны на праўнага дарадніка Япархіяльнай Управы.

Абмяркоўваючы справу арганізацыі манастыра на селішчы „Мір", быў прынятьı рэгулямін народнай кніжні (бібліятэкі) манастыра, прыняты рэгулямін Манастырскай летняй школы для беларускіх дзяцей, кіраўніком якое зацьверджаны сп. Янка Чыжык.

Таксама быў прыняты рэгулямін Скарбу Прадславы дзеля зьбіраньня й разьдзяляньня грашовае дапамогі беларускім вучням. У Самаўрад Скарбу Прадславы выбраныя сп-ня Аліна Курыла й д-р Язэп Сажыч, а ад Япархіяльнай Управы аўтаматычна ўваходзіць у Самаўрад ейны скарбнік. Самаўрад мае быць папоўнены прадстаўніком ад каталіцкага й прадстаўніком ад пратэстанцкага беларускіх згуртаваньняў. Скарб Прадславы зьяўляецца собскасьцяй БАПЦарквы, а ахвяроўваныя на яго грошы юрыдычна ўважаюцца, як ахвяры на царкву, і таму будуць яны вольныя ад падаткаў. Прысланыя ахвяры да 25 сакавіка сёлета змогуць быць адцягнуты ад падатку за 1967 год.

На паседжаньні быў яшчэ прынятьı рэгулямін Дому Заслужаных пры Манастыры. Абмяркоўвалася думка заснаваньня поўманастырскага згуртаваньня. Апрацаваньне ягонага рэгуляміну, апытаньне сурудзічаў ды практычнае ўладжаньне гэтага згуртаваньня даручана сп. П. Манькоўскаму. Высьвячэньне згуртаваньня плянуецца правесьці ў Дзень Прадславы 5 чырвеня сёлета.

Манаскі рэгулямін манастыра абяцаў прадставіць Уладыка Васіль з мамэнтам павялічэньня колькасьці манахаў (манашак для жаноцкага манастыра). Цяперака-ж Уладыка Васіль назначыў ігуменам манастыра архімандрыта а. Мікалая, а гаспадаром — д-ра В. Васілеўскага.

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў НЬЮ ЁРКУ

Беларуска - Амэрыканскае Задзіночаньне ў Нью Ёрку зарганізавала ўрачыстае сьвяткаваньне 47-ых угодкаў слаўнага Слуцкага Паўстаньня.

У нядзелю 17 сьнежня ў Катэдральным Саборы БАПЦарквы імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль у суслужэньні а. Васіля Кендыша адслужыў паніхіду па Слуцкіх Паўстанцах і па ўсіх гэроях, што палеглі ў вызвольным змаганьні Беларускага Народу.

У часе паніхіды група беларускіх вайсковых вэтэранаў з пахіленым сьцягам стаяла перад аўтаром, аддаючы гэтым чэсьць загінуўшым змагаром.

Папаўдні таго-ж дня адбылося ў залі Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ўрачыстая акадэмія. Адчыніў яе ўступным словам старшыня Акруговай Управы БАЗА д-р Ул. Набагез. З прынагоднымі прамовам выступілі сп. сп. Мікола Кунцэвіч Барыс Данілюк, Антон Шукелайць і Янка Запруднік. Пасьля гэтага прысутныя праслухалі з магнітафоннай стужкі мантаж беларускіх ваяцкіх песьняў, патрыятычнае лірыкі й гістарычных дакумэнтаў, што маюць дачыненьні да гісторыі беларускага збройнага змаганьня.

У канцы старшыня акадэміі падчыркнуў значэньне й веліч Слуцкага Збройнага Чыну й нязвычайную ахвярнасьць ды палымяны патрыятызм Слуцкіх Змагароў, які павінен быць нам прыкладам і ўзорам.

Урачысты сход закончыўся прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## ЗЬМЕНЫ Ў САКРАТАРЫЯЦЕ РАДЫ БНР

У сувязі з рукапалажэньнем у сан сьвятара Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, а. Васіль Кендыш злажыў просьбу Старшыні Сакратарыяту Рады БНР сп. ген. Францішку Кушалю дымісіі із усіх займаных ім становішчаў у Сакратарыяце Рады БНР. Старшыня Сакратарыяту просьбу а. Васіля Кендыша прыняў.

# НОВЫ СЬВЯТАР БАПЦ



**Зьлева направа: мітр. прат. а. Сьцяпан, Уладыка Васіль, архімандрыт а. Мікалай і а. Васіль Кендыш**

Цяжка церпіць ад даўжэйшага часу нашая любая духовая Маці — Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Аднак 9-10 сьнежня яна радавалася, і мы ўсе разам зь ёю, бо ў гэтыя дні яна прыдбала сабе ня толькі новага, але й вернага слугу свайго — Айца ВАСІЛЯ.

Усе мы ведаем сп. Васіля Кендыша як глыбокага беларускага патрыёту, добрага й самаахвярнага працаўніка на грамадзкай ніве, як чалавека з належнай асьветаю. Але гэтага для сьвятара яшчэ мала. Сп. Васіль Кендыш нарадзіўся ў пабожнай праваслаўнай сям'і, таму й сам глыбака пабожны. Ужо ў часе навукі ў Беларускай гімназіі ў Клецку ён увесь час сьпяваў у школьным і царкоўным хоры, бо мае добры голас, чытаў Часы й Апостала.

Апрача гэтага, сп. В. Кендыш ужо больш году паважна займаўся багаслоўскімі студыямі пад кіраўніцтвам адпаведнага багаслова й літургіка, будучы наважаным пайсьці няпрэймы просьбам многіх прыняць сан сьвятара. Сп. В. Кендыш у прынцыпе згадзіўся ўступіць на гэты цяжкі ў нашых беларускіх абставінах шлях, але доўгі час адкладаў рукапалажэньне, бо хацеў належна падрыхтавацца да яго. Уладыка Васіль ведаў гэта, таму й чакаў. Але вось патрэбная навука была здабытая. Сп. В. Кендыш адчуў, што ён ужо гатовы й злажыў адпаведную просьбу Уладыку. Уладыка прыняў яе з радасьцяй, і ў паразуменьні зь Япархіяльнай Управаю вызначыў дні рукапалажэньня: 9-га сьнежня на дыякана, а 10-га сьнежня — на сьвятара.

Вельмі радаснымі былі гэтыя дні як для нашае сьв. БАПЦарквы, гэтак і для ўсіх нас. Радасьць гэтая была падзеленая між Нью Брансьвікам і Нью Ёркам. У сыботу 9-га сьнежня Уладыка Васіль адправіў Божую Службу ў суслужэньні мітр. прат. а. Сьцяпана Войтэнкі ў ягонай царкве ў Нью Брансьвіку, і там рукапалажыў Васіля Кендыша ў сан дыякана. На гэтую радасную ўрачыстасьць нашую пасьпяшылі траха ўсе прыхаджане зь Нью Брансьвіку, прыбылі многія й зь Нью Ёрку. Падчас урачыстасьці вельмі прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам сп. Ф. Родзькі. Служба Божая закончылася мнагалецьцямі нашай Герархіі, Духавенству, новаму дыякану а. Васілю, Амэрыканскаму й Беларускаму народам ды нашым царкоўным гімнам „Магутны Божа".

Пасьля Божае Службы адбыўся супольны абед з удзелам звыш ста асобаў, падчас якога таксама была немалая радасьць, а таму й шмат было сказана прыгожых прамоваў ды прапяяна шмат гучных „Многая лета" й „Сто год".

Але на другі дзень радасьць была яшчэ большая з прычыны рукапалажэньня дыякана а. Васіля ў сьвятары. Адбылося гэта, пасьля некаторых ведамых перашкодаў, у нашым катадральным саборы ў Брукліне. На гэтую вялікую ўрачыстасьць прыбылі: мітр. прат. а. Сьцяпан із сваім хорам і многімі вернікамі зь Нью Брансьвіку, архімандрыт а. Мікалай з Таронта ды шмат вернікаў зь Нью Ёрку.

Такая вялікая й слаўная ўрачыстасьць рэдка калі бывае ў нашым саборы. Уладыку Васілю суслужылі архімандрыт а. Мікалай, мітр. прат. а. Сьцяпан і дыякан а. Васіль. Нязвычайна прыгожа сьпяваў наш хор пад кіраўніцтвам сп. М. Тулейкі, будучы ўзмоцненым многімі харыстымі зь Нью Брансьвіку. Шмат якія магчыма ўпяршыню бачылі абрад рукапалажэньня сьвятара таму тым больш былі рады, бо-ж абрад гэты ў праваслаўнай царкве ўзапраўды вельмі ўрачысты. Бязумоўна, усе прысутныя цешыліся й таму, што да свайго рукапалажэньня на сьвятара а. Васіль ужо служыў як дыякан і, як на першы раз, служыў зусім добра, свабодна й упэўнена, што шмат каго прыемна зьдзівіла. Натхненьне Уладыкі, Духавенства й вернікаў узапраўды было вялікае.

Пасьля Божае Службы Уладыка Васіль прыгожа прывітаў а. Васіля, напомніў яму, на які цярністы, але адначасна й слаўны шлях ён цяпер узыйшоў, бо-ж шлях служэньня Богу, нашай сьв. БАПЦаркве й нашаму Беларускаму Народу. Шмат тут цяжкасьцяў ён спаткае, але няма ніякага страху для таго, хто ўзяў Крыж Хрыстовы на сябе. Такому Хрыстос, Бог і Спас наш стала гаворыць: Нічога ня бойся! Я перамог сьвет, і ты сілаю Майго Духа Сьвятога ўсё пераможаш!

Божая Служба закончылася шматлецьцямі й нашым царкоўным гімнам „Магутны Божа". Пасьля адбыўся супольны абед. Нашая прасторная заля была перапоўненая радаснымі вернікамі ў ліку звыш 150 асобаў, сярод якіх было 25-30 нашых братоў і сёстраў із Нью Брансьвіку. Як у царкве, гэтак і тут нашыя фатографы ўсьцяж рабілі фотаздымкі. Кажны цешыўся і таму, што было шмат прыгожых прамоваў, у якіх усе перадусім горача дзякавалі а. Васілю за ягоны прыгожы для нас чын. І тут усьцяж гучэлі „Многае лета", й „Сто год". Зусім зразумела, а. Васіль ды ягоная Матушка былі моцна ўсхваляваныя гэтай шчырай падзякай усіх прысутных, і а. Васіль таксама горача дзякаваў усім за яе ў сваім прыгожым слове. У ім ён зазначыў, што для яго цяпер найбольшай радасьцяй будзе належна служыць Богу, нашай сьв. БАПЦаркве, а гэтым — і нашаму Беларускаму Народу. Усе прысутныя адказалі яму на гэта бурнымі воплескамі.

Але зьбліжаўся вечар, і Уладыка Васіль як пачаў, гэтак і закончыў гэтую нашую слаўную ўрачыстасьць малітваю й багаславеньнем усіх. Із свайго боку мы горача жадаем а. Васілю плённае працы на славу Богу, нашай сьв. БАПЦаркве ды на дабро й радасьць усяго нашага Беларускага Народу.

**С. Клім**

## АД ІМЯ ВЕРНІКАЎ З КЛІЎЛЕНДУ, ШТО ЗЛАЖЫЛІ СВАЕ АХВЯРЫ НА АБЛАЧЭНЬНЕ ДЛЯ АЙЦА ВАСІЛЯ

Вельмі Паважаны й Дарагі Айцец Васіль!

Зь вялікай радасьцяй і натхненьнем вітаю Вас з нагоды прыняцьця Вамі Сьвятарскага Сану й пераходу на служэньне Богу й свайму Народу ў сваёй Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Вашая пастанова перайсьці на служэньне нашай Царкве й прыйсьці з дапамогаю нашаму дарагому й можна сказаць Вялікамучаніку Уладыку Васілю натхнёная самым Госпадам Богам, які ўдастоіў Вас прыняць гэты пачэсны сан сьвятара.

Няхай-жа Ўсемагутны багаславіць Вас сваёю любоўю, ласкаю, абдорыць Вас добрым здароўем ды захавае Вас на Многая Лета!

З глыбокаю пашанаю да Вас

**В. Семянчук**



# ВЕСТКІ з КАНАДЫ



BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

## ЗБУДУЕМ ЖЫВУЮ ПАМЯТКУ

Пачынаем новы — 1968 год. Гэты год, як і папярэднія, прыйшоў і пойдзе. Але штось ён мусіць пакінуць па сабе, бо ніводзін год не праходзіць бясьсьледна. 1968 год ёсьць для Беларусаў нязвычайным годам, бо ў гэтым годзе, 25 сакавіка скончыцца 50 год ад часу абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Таму гэты год тым больш ня можа прайсьці для нас бясьсьледна.

50 год — гэта паўстагодзьдзе, гэта вялікі кусок часу. І на працягу гэтых 50 год Беларусы, хоць прайшлі праз цяжкія выпрабаваньні, не забыліся пра векапомны Акт 25 Сакавіка, не забыліся, што гэтым Актам было завершана ўтварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі й была абвешчаная незалежнасьць Яе. Не забыліся, што Беларуская Народная Рэспубліка сталася зьдзейсьненьнем векавых мараў і імкненьняў беларускага народу, што Яна зрабіла яго гаспадаром свайго краю, дала яму максімум свабоды, дала нацыянальную й сацыяльную справядлівасьць. Гэтага ніколі ня зможа даць куртатая, крыклівая, таталітарная хвалышыўка дзяржаўнасьці — БССР.

Гэта мы добра разумеем і таму старанна захоўваем і культывуем нашую нацыянальную ідэю незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі зь пераканаьнем, што раней ці пазьней яна, ідэя гэтая — будзе зрэалізаваная. Кажны год мы сьвяткуем дзень 25 сакавіка, як нацыянальны дзень.

Але ў юбілейным годзе 50-годзьдзя абвешчаньня незалежнасьці Беларусі мы мусім здабыцца на штось большае, як урачыстае сьвяткаваньне. Мы мусім адзначыць гэты юбілей відавочнай жывой памяткай, якая-б была чыннай і заўсёды жыла між намі, якая-б служыла нашаму нацыянальнаму ідэялу дзяржаўнай незалежнасьці.

Найлепшай такой памяткай будзе беларуская масавая незалежніцкая арганізацыя, да якой належаў-бы кажны Беларус ці Беларуска, што ў сэрцы й сьвядамасьці сваёй песьцяць ідэю незалежнасьці сваёй бацькаўшчыны. Назавём гэтую арганізацыю ЛІГАЙ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ. Назоў гэты хіба што добры, у ім слова ліга — азначае вялікае й шырокае згрупаваньне людзей, а Беларуская Народная Рэспубліка зьмяшчае ў сабе ўсё найлепшае й найдаражэйшае — людзкае й нацыянальнае.

Ліга БНР мусіць паўстаць ува ўсіх беларускіх асяродках, ува ўсім вольным сьвеце. Заклікаем да арганізацыі не ўсё беларускае грамадзтва. Хай стануцца ініцыятарамі гэтай арганізацыі тыя суродзічы, якім думка гэта прыпадае да пераканаьня й якія не пабаяцца арганізацыйнага высілку. Хай яны возьмуцца за гэтую добрую справу й запачаткуюць арганізацыю ў сваіх асяродзьдзях.

Умовімся, што тымчасовым арганізацыйным цэнтрам будзе рэдакцыя „Беларуса" Амэрыканская й Канадыйская. На іх адрыс просім скіроўваць усе пытаньні й інфармацыі ў справе Лігі БНР.

Пазьней будзе створаны адумысловы арганізацыйны цэнтр Лігі БНР. Як зьбярэцца патрэбная колькасьць сяброў — будуць праведзеныя арганізацыйныя сходы ў паасобных асяродках, пасьля чаго адбудзецца агульны арганізацыйны зьезд.

Такім чынам, супольным высілкам мы створым жывую памятку абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — Лігу БНР.

**В. Жук**

## 10-ЫЯ УГОДКІ УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ

17-га сьнежня 1967 г. Беларусы Таронта адзначылі ўрачыстай акадэміяй угодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу.

Роўна 50 год таму назад Менск трывожна рыхтаваўся да падзеі, якая адкрыла новую пару ў гісторыі беларускага народу. Вялікая заля тэатру напаўнялася дзядзькамі ў сьвітках і кажухах, вайсковымі й цывільнымі прадстаўнікамі ў гарадзкой вопратцы. Барадатыя й вусатыя яны пакашлівалі й гутарылі то прыцішана, нясьмела, як сяляне прыехаўшы ў горад, то ажыўлена й голасна дыскутавалі міжсобку. Гаворка іхняя мела асаблівасьці Смаленшчыны й Віцебшчыны, Горадзеншчыны й Віленшчыны, Магілёўшчыны й Палесься ды паўночнай Чарнігаўшчыны. Усіх іх лучыла трывожная важнасьць справы, дзеля якое яны, блізу 2.000 дэлегатаў, зьехаліся з усіх куткоў Беларусі. Тыя, што засталіся дома, даручылі ім справядліва вырашаць лёс іхняй пакутнай Айчыны.

З пашанай і любоўю гляджу на вас сяньня, вачыма душы, барадатыя дзядзькі ў сьвітках і змучаныя вайскавікі з франтоў. Чую холад у касьцёх і мурашкі на целе, быццам гэта мне трэба было слухаць дэмагогію прысутных між вамі дэлегатаў ад камуністых, быццам гэта я была ў небясьпецы перад ворагамі, што вам пагражалі.

З гэткім адчуваньнем сяджу ў залі Беларускага Цэнтру, у радзе крэслаў і чакаю на пачатак акадэміі. Нас ня шмат, ня сотні й ня тысячы, што сабраліся, каб аддаць чэсьць вашай памяці, вашым высілкам, вашым дасягненьням. І мы далёка... Тым, што ў Менску, ды блізка яго нельга навет адкрыта схіляць галовы перад вамі... Але мы верым, што прыйдзе час і ўваскрэсьне створаная вамі Беларуская Народная Рэспубліка.

Акадэмію адкрывае Старшыня Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады, якое ладзіць гэтую ўрачыстасьць, агульным сьпевам-малітвай „Беларусь наша Маці Краіна".

Даклад д-ра Вінцэнта Жук-Грышкевіча працірае задымленыя трохі шыбы нашых уяўленьняў аб Кангрэсе. Праз іх мы пачынаем ясьней бачыць і асэнсоўваць падзеі, што адбываліся 50 ды болей гадоў таму назад на нашых землях. Даклад упарадкоўвае ў пасьлядоўны ланцуг, часта фрагмэнтарычныя, веды пра Усебеларускі Кангрэс. Адказвае на пытаньне, як гэта магло стацца, каб народ, які яшчэ нядаўна Янка Купала клікаў „людзьмі звацца", на Кангрэсе выявіў перад сьветам сваю волю быць самастойным у сваёй незалежнай дзяржаве.

Сталася зразумелым: У завірусе вайны й расейскай рэвалюцыі беларускі народ тварыў сваю нацыянальную рэвалюцыю — і ў вакопах на франтох, і ў вёсках і гарадох перапоўненых войскам, і ў масавым „бежанстве". Тварыў яе ў зьдзеках пад царскім рэжымам, у зьнішчэньні краю вайной, у масавых штурмах супроць „Расейскай турмы народаў", у бесьперапынных мітынгах і дыскусіях, у вайсковых зьездах і камітэтах, у гарачкавай разбудове нацыянальных арганізацыяў.

Усебеларускі Кангрэс быў беспасярэднім працягам гэтай нацыянальнай рэвалюцыі, а Акт 25-га Сакавіка — вынікам яе.

У нашым уяўленьні Ўсебеларускі Кангрэс набірае большых і магутнейшых памераў. Вайскавікі й дзядзькі ў сьвітках стаюцца барацьбітамі й абаронцамі „Нашае Маці Краіны", якую ворагі „На суды павялі... зьвязанай... і судзіці давай... ня спытаўшыся грэху, віны... разьбівалі пасад ёй нячыстыя... накладалі аковы сталёвыя... у намітку убраўшы цярнёвую... на бадзяньне пусьцілі на зьдзек...", як рэцытавала пасьля дакладу „Суды" Янкі Купалы Р. Ж.-Г.

Зь верай у натуральную жыцьцёвую сілу нашага народу, у непакорную й нязломную Маці Беларусь, якую „...усё-ж крыўды не змаглі..", якой „не здалеюць суды цёмнатворныя... спаганіць і вырваць душу", ды з запэўненьнем, што „ў крывавых муках мы народзім жыцьцё Рэспублікі сваей" — закончылася акадэмія.

**Р. Ж.**

## ХРОНІКА

● **Дзень гэрояў Беларусі** быў адзначаны ў вабедзьвюх беларускіх праваслаўных царквах у Таронта: 26 лістапада 1967 г. была адслужана паніхіда па паўшых змагарох за незалежнасьць Беларусі ў беларускай царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай на Довэнкорт. Пры гэтай нагодзе настаяцель царквы а. Кузьміцкі сказаў прыгожае патрыятычнае казаньне.

3 сьнежня 1967 г. адбылася паніхіда за Тых, што пашлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына — у БАПЦаркве сьв. Кірылы Тураўскага на Санклеранс. Прыгожае прынагоднае казаньне сказаў а. Архімандрыт Мікалай. Пасьля паніхіды адбылася ўрачыстая акадэмія, аб якой мова на іншым месцы.

● **Сход Канадыйскага Сэктару Рады БНР** адбыўся 3 сьнежня, на якім былі праведзеныя перавыбары кіраўніцтва Сэктару й разгледжаныя актуальныя справы.

● **50 год ад часу скліканьня Першага Ўсебеларускага Кангрэсу** было адзначана ў Таронта ўрачыстай акадэміяй, справаздача зь якой падаецца асобна.

● **Паседжаньне Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады** было скліканае 17 сьнежня. На паседжаньні было пастаноўлена аднагалосна, каб у сувязі з 50-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі прызнаць 1968 год юбілейным годам Беларускай Народнай Рэспублікі, аб чым паведаміць беларускае грамадзтва асобным камунікатам.

Для адзначэньня гэтага юбілею былі запрапанаваныя два праекты адмысловых юбілейных памятак: праект Др. Р. Жук-Грышкевіч — на працягу юбілейнага году вывучаць гісторыю беларускага вызвольнага руху пэрыядычнымі дакладамі й дыскусіямі з супольным удзелам ЗБК й БНА, ці паасобку; сп. Беразоўскага — выдаць у мастацкім афармленьні юбілейную паштоўку з мапамі БНР і БССР і важнейшымі датамі. Былі прынятыя абодвы праекты.

У справе юбілейнага сьвяткаваньня 25 Сакавіка пастаноўлена: Старацца правесьці сьвяткаваньне ўва ўсіх беларускіх асяродзьдзях у Канадзе, а прынамсі ў большых зь іх, як Таронта, Монтрэаль і Ашава. Дату сьвяткаваньня ў Таронта вызначылі на нядзелю 24 сакавіка ў Славацкай залі. Аб даце сьвяткаваньня ў іншых асяродках пастанавілі дамовіцца на мясцох. Была абмяркаваная таксама праграма сьвяткаваньня ў Таронта й падзел працы.

● **Справа афіцыйных моваў у Канадзе.** Каралеўская Камісія дзьвюх моваў і дзьвюх культураў здала на разгляд парляманту першую частку сваіх высноваў, у якіх прапане, каб у Канадзе дзьве мовы — ангельская й француская — былі прызнаныя афіцыйнымі мовамі ў Парляманце Канады, у фэдэральных судох і ў фэдэральным урадзе й адміністрацыі. У справе прызнаньня гэтых дзьвюх моваў за афіцыйныя ў паасобных правінцыях Канады Камісія зарэкамендавала, каб прызнаньне абедзьвюх моваў правінцыі правялі самі там, дзе другой мовай гавораць 10 ці больш працэнтаў насельніцтва.

Сябра Камісіі праф. Я. Рудніцкі — Украінец зь Вініпэгу — прапанаваў, каб Камісія ўзяла пад увагу тыя 6 мілёнаў насельніцтва Канады, якое ўжывае іншую мову, як ангельскую ці францускую. На першыя месцы тут стаяць большыя этнічныя групы, як Украінцы, Немцы, Італьянцы й Эскімо-Індыяне, якія ў шмат якіх акругах маюць 10 і больш працэнтаў свайго насельніцтва. Ён дамагаўся, каб у гэтых ак-

## ВАЖНЫЯ ЗЬМЕНЫ Ў ІМІГРАЦЫЙНЫМ АКЦЕ

У кастрычніку 1967 году ўвайшоў у сілу зьменены іміграцыйны акт. Зьмены былі скіраваныя на тое, каб пазбыцца дыскрымінацыі, зьвяртаючы большую ўвагу на сямейныя вымаганьні, на справядлівасьць дзеяньня акту й праяўленьне большага спачуваньня імігруючым і іх спонсарам. Іміграцыйная палітыка Канады скіраваная на павялічэньне ліку імігрантаў згодна з узростам запатрабаваньня на працоўную сілу ўзрастаючай экономікі Канады.

Паводле зьмененага іміграцыйнага акту, у Канаду могуць прыехаць наступныя катэгорыі імігрантаў:

**а) Спонсараваная залежная радня***). Канадыйскі грамадзянін ці сталы жыхар (рэзыдэнт) Канады мае права спонсараваць (ручацца) за сваю залежную радню, што хоча прыехаць у Канаду. Спонсарам запаўняецца, што іх залежныя родзічы будуць закваліфікаваныя на прыезд у Канаду, калі яны здаровыя й маюць добры характар.

Да спонсараванай залежнай радні залічаюцца: муж ці жонка; нежанаты сын ці незамужняя дачка векам менш як 21 год; нарэчаны ці нарэчаная; бацька ці дзед, або маці ці бабка векам 60 гадоў ці больш; бацька ці дзед, або маці ці бабка векам менш як 60 гадоў, калі яны ўдаўцы ці ўдовы, або няздольныя да працы; сіроты векам менш як 18 гадоў наступных катэгорыяў: унук ці ўнучка, брат, сястра, пляменьнік ці пляменьніца; найбліжэйшая радня ў выпадках, калі спонсар ня мае пры сабе іншай залежнай радні, апрача жонкі ці мужа (у гэтым выпадку можна спонсараваць толькі аднаго родзіча).

Просьба аб дазвол на прыезд у Канаду спонсараванага залежнага родзіча ўключае таксама кажнага ягонага залежнага родзіча з найбліжэйшай радні, які мае прыехаць разам зь ім.

За найбліжэйшую радню, згодна зь іміграцыйным актам, уважаецца мужа ці жонку й кажнага нежанатага сына ці незамужнюю дачку ў веку менш 21 год.

**б) Названая радня (Номінэйтэд рэлятывс).** Канадыйскі грамадзянін ці сталы жыхар (рэзыдэнт) Канады мае права „назваць" тых сваіх родзічаў, якія хочуць прыехаць у Канаду. Пад „названай радней" разумеецца тая радня, што па прыездзе ў Канаду будзе незалежнай, а не на ўтрыманьні тэй асобы, што стараецца аб яе прыезд.

У „названую радню" ўваходзяць наступныя катэгорыі: нежанаты сын ці незамужняя дачка ў веку 22 год і больш; жанаты сын ці замужняя дачка ў веку менш як 21 год; брат ці сястра, бацька ці дзед, або маці ці бабка векам менш як 60 гадоў; пляменьнік, пляменьніца, дзядзька, цётка, унук ці ўнучка.

У кажным з гэтых выпадкаў просьба аб дазвол на іміграваньне ў Канаду ўключае й тых з найбліжэйшай радні (муж, жонка й іх дзеці) іміграната з гэтай катэгорыі, што маюць прыехаць разам зь ім.

**в) Незалежныя імігранты.** Усе іншыя імігранты, што ня ўходзяць у катэгорыі „спонсараваных" і „названую радню", а складаюць просьбу аб дазвол на іміграваньне ў Канаду незалежна — уважаюцца за незалежных імігрантаў.

Сыстэма ацэны прыгоднасьці незалежных імігрантаў мае 100 ацэначных адзінак у наступных катэгорыях, паданых у парадку важнасьці: 1. асьвета, 2. асабістыя якасьці, 3. запатрабаваньне на працу, 4. век, 5. прафэсійныя кваліфікацыі, 6. магчымасьці атрымаваньня працы, 7. знаньне ангельскай ці францускай мовы, 8. радня, 9. акруга, у якую імігрант хоча прыехаць.

Калі прыгледзімся бліжэй да гэтых новаўведзеных зьмен у іміграцыйным акце, то пабачым, што яны даюць шмат большыя магчымасьці, чымся ранейшыя, для іміграцыі ў Канаду як радні, так і незалежным імігрантам. Скарыстаць з гэтых зьменаў могуць тыя Беларусы, што хочуць памагчы прыехаць сваёй радні ў Канаду з Заходняй Эўропы або і з Польшчы.

*) Пад „залежнай радней" разумеюцца тыя імігранты, што маюць быць на ўтрыманьні спонсара па прыездзе ў Канаду.

## ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ У ТАРОНТА

3-га сьнежня Беларусы Канады паніхідай у Б.А.П.Ц. і акадэміяй, ладжанай Згуртаваньнем Беларусаў Канады, аддавалі чэсьць памяці тых, што „ахвярай і чынам" намагаліся даць „шчасьце й волю Айчыне".

Незалежна ад абставін, з году ў год мы малітвай і супольнай паважнай і ўдумлівай урачыстасьцяй ушаноўваем памяць гэрояў Беларусі й гэтым чэрпаем ад іх патрэбныя нам сілы — гаварыў адкрываючы акадэмію старшыня З.Б.К. сп. Мікола Ганько.

Словы з агульна сьпяванага жалобнага маршу — „Мы не пахілім галоваў, не уцячом із радоў..." — проста пыталі: а ты дзе ёсьць, у радох, ці звонку іх?

Прэлегэнт, мгр. А. Грыцук, у сваім дакладзе падкрэсьліў існаваньне лягічнага разьвіцця працэсу беларускага адраджэнскага руху.

— Калі мы параўнаем тастамэнт Кастуся Каліноўскага, Акт 25-га Сакавіка й Дэклярацыю Рады Случчыны — гаварыў дакладчык — мы ўбачым цяглясьць у імкненьні беларускага народу да адное мэты: незалежнасьці Беларусі. У выніку дзеяньня Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, ад часу якога 18-га сьнежня скончыцца 50 год, была абвешчаная Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Гэтым беларускі народ задэманстраваў перад усім сьветам сваю волю быць незалежным.

Ворагі фізычнай сілай зламалі й збройнае паўстаньне Случчыны, што бараніла Б.Н.Р., і зьнішчылі сувэрэнную беларускую дзяржаўнасьць. Не маглі яны аднак зыгнараваць волі народу. Зьнішчылі Б.Н.Р., але ў супрацьвагу мусілі стварыць Б.С.С.Р. Цяпер яны самі гавораць, што каб ня было Б.Н.Р., ня было-б і Б.С.С.Р. Беларусь была-б толькі вобласьцяй Расеі—Р.С.Ф.С.Р.

Экзыльны ўрад Б.Н.Р. і мы — нацыянальная эміграцыя напамінаем усьцяж нашым акупантам аб існаваньні актыўнай сілы беларускага народу ў яго імкненьні да сувэрэннасьці. Нам трэба толькі быць на ўзроўні нашага заданьня: гаварыць сьвету аб беларускім народзе й ягоных „гюман райтс" быць незалежным, ды маральна падтрымоўваць гэтае імкненьне да атрыманьня „людзкіх правоў" для Беларусаў на Бацькаўшчыне. Нам нельга „прысвойвацца" да іншых (дэнацыяналізавацца) і забываць, чаго мы тут ёсьць.

Глыбокі думкай і настроем верш Натальлі Арсеньневай „Песьня пра Слуцкае паўстаньне" — ў рэцытацыі Др. Раісы Жук-Г. — дапоўнілі даклад, а гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" закончыў урачыстасьць.

**Р. Ж.**

*УРАЖАНЬНІ З ПАДАРОЖЖА*

# 3. У МЮНХЭНЕ

Самалёт лініі Айр Франс гладка плыве на ўсход, да фактычнае мэты нашага падарожжа — Мюнхэну.

Калі яшчэ ў Нью Ёрку некаторыя нашыя знаёмыя із здзіўленьнем пыталіся, чаму якраз выбралі мы гэты маршрут на Эўропу: Мюнхэн — Парыж — Рым, мясьціны, ужо нам ведамыя, чаму, прыкладам, ня Мэксыку ці Гаваі, ня лёгка было адказаць на гэтае пытаньне. Вось і цяперака ў самалёце ставім яшчэ раз гэтае пытаньне — чаму? і стараемся адказаць: першае таму, што прыемна наведаць знаёмых і прыяцеляў; другое таму, што некаторыя гарады асабліва мілыя сэрцу, прыкладам, Рым, трэйцяе таму, што хочацца пабадзяцца па старых сьцежках-дарожках; чацьвертае таму, каб прыглядзецца-прыслухацца, чым жыве Эўропа сяньня, якія лініі, сылюэты лянсуюць вялікія дамы модаў Парыжу, Лёндану, Рыму, і г. д., і г. д. Гэтак шмат хочацца даведацца, гэтак шмат пабачыць . . .

Праз воблакі ўнізе раптам рысуецца вузенькая стужка Ізару й маленькі, калі глядзець з вышыні, горад на рэчкаю — Мюнхэн. Зь лёгкім сэрцам высядаем із самалёту, бо-ж ведаем і горад, і мову, маем зарэзэрваваны гатэль. Каб ня турбаваць знаёмых, навет не падалі дакладнае гадзіны прылёту. Аднак, на аэрадроме нас спатыкаюць сп-ва Кабышы й сп. А. Маляўка з Розэнгайму. Добрай раніцы, дарагія, як прыемна сустрэцца з Вамі!

Няпрывабна выглядаў горад спачатку пры спатканьні зь ім: разрыты равамі, пераплецены загарадкамі, шум ад машынаў, што здымаюць асфальт, трэск эскаватараў, трактараў. — Будуюць падземку, — паясьняюць Мюнхэнцы. — Горад рыхтуецца да алімпійскіх гульняў, што адбудуцца тут у 1972 годзе. Што-ж, памажы Божа, за чатыры гады, хто ведае, можа ўзноў прыедзем сюды на алімпіяду.

Супакою даводзілася шукаць у парках і прыгарадных лясох. Гадзінамі блудзячы па парках, адведваючы ўсе любыя мясьціны, прастуючы праз усе выхаджаныя раней праз гады прабываньня тутака сьцежкі-дарожкі, мне здавалася, што дзеля гэтага мы й прыехалі сюды: каб пасядзець на знаёмай лаўцы ў Батанічным агародзе паміж старых высачэзных бяроз, глыбака, да адказу ўдыхнуць у грудзі сьвежага паветра, насычанага пахам скошанага сена, назьбіраць грыбоў у Грунвальдзкім лесе, занурыць змучаныя ногі ў сьцюдзёным Ізары й доўга ўглядацца ў вабрысы Альпаў зь бельмі шапкамі сьнегу. Авалодвае табой такое прыемнае адпружаньне й такі супакой, якога шукаеш часамі гадамі.

Паміж шматнацыянальнымі групамі чужынцаў жывуць у Мюнхэне й Беларусы. Зь некаторымі зь іх давялося спаткацца.

Ізь сям'ёй сп. Сымона Кабыша адсьвяткавалі ягоны 77-мы дзень нараджэньня й пажадалі яму ад усяго сэрца здароўя й посьпеху ў жыцьці й прафэсыйнай працы. У тым самым утульным пакоі гаспадароў, дзе часта раней даводзілася зь імі праводзіць час, выпала яшчэ раз сустрэцца.

— А кім-жа ты хочаш быць, Толік? Што цябе найболыш цікавіць? — пытаю маладога юнака-абітур'ента, унука гаспадара. — Ён будзе студыяваць хімію, — паясьняе маці, а Толік, падумаўшы: — Буду рысаваць, як тата, гэта мне найболыш падабаецца, можа быць і графіка, ці архітэктура . . . — Прыгожай беларускай мовай гаворыць Толік Чайкоўскі. Што-ж, памагай яму, Божа, мастакоў і архітэктаў у нас не зашмат.

Адведваючы другую беларускую сям'ю сп-ва Урбаноў, цешуся разам з бацькамі посьпехамі малое Ірынкі ў дзіцячым садку, хвалю кулінарныя здольнасьці гаспадыні, асабліва ў прыгатаваньні беларускага халадніку, і доўга-доўга гутарым — абменьваемся думкамі пры шклянцы віна. Якое гэта вялікае шчасьце, калі ў сям'і аднае нацыянальнасьці гадуецца ў беларускай атмасфэры маладое пакаленьне — нашая новая зьмена.

Было шмат прыемных сустрэчаў із знаёмымі й прыяцелямі, але была й адна сумная ды балючая сустрэча, пра якую гэтта й хочацца сказаць шырэй.

Па дарозе ў Батанічны агарод можна па старой звычцы вылезьці з трамваю на пляцы Чырвонага Крыжа, а фактычна ня толькі можна, а й трэба вылезьці, бо тут-жа ў ваднэй з бочных вуліцаў, як рукой падаць, месьціцца ўкраінская друкарня „Лёгос". Ногі аўтаматычна прысьпешваюць хаду, вось яна брама тая-ж самая, вялікая, шэрая, сьціплы напіс на ёй, панадворак, уціснуты паміж будынкаў, і дзьверы. Тут у гэтай друкарні на працягу каля 15-ёх год друкавалася газэта „Бацькаўшчына" зь ейным дадаткам для дзяцей — „Каласкі". Тут друкаваліся і ўсе кнігі выдавецтва „Бацькаўшчына" ў колькасьці каля 16-ці, а між імі й такія манумэнтальныя выданьні, як „Спадчына" Янкі Купалы, „Вянок" Максіма Багдановіча, „Матчын дар" Алеся Гаруна, „Новая зямля" й „Сымон Музыка" Якуба Коласа, зборнік літаратурных твораў эміграцыйных пісьменьнікаў „Ля чужых берагоў", прыгожа ілюстраваныя „Беларускія казкі" й іншыя. Адсюль, з газэты й кніжнага выдавецтва праменявала на працягу чуць не даццацёх год беларуская нацыянальная ідэя й разыходзілася роднае друкаванае слова ўва ўсе краі пасяленьня беларускае эміграцыі.

Стаіць на месцы друкарня, тыя-ж друкары ўвіхаюцца пры машынах, тыя-ж складальнікі каля лінатыпаў, як і даўней. Радасна вітаемся, і, здаецца, нічога не зьмянілася за апошнія пяць год, але гэта толькі першае ўражаньне. Дарма шукаюць вочы знаёмых шрыфтаў і шпальтаў, іх няма, ня рыхтуецца чародны нумар газэты . . .

Дырэктар друкарні сп. Рыгор Наняк, які на працягу доўгіх год супрацоўнічаў з нашым выдавецтвам, ня ўмее адказаць на маё пытаньне — чаму? Чаму ня выходзіць „Бацькаўшчына"?

— Чаму якраз на 450-ыя ўгодкі беларускага друкаванага слова памірае чуць ня першая й найслаўнейшая нашая газэта на эміграцыі? —таўчэцца ў галаве назойлівая думка, і робіцца гэтак цяжка на сэрцы. — Відаць, няма каму займацца гэтым, — адказваюць мне друкары. Хоць ведаю, што гэта ня зусім так, ёсць-жа даволі здольных беларускіх грамадзкіх працаўнікоў у Мюнхэне, прычына, відаць, у чымсьці іншым. Чуюся вінаватай, моцна вінаватай, што пакінулі, зусім занядбалі роднае друкаванае слова ўсе мы разам: і ты, чытач, і я, і ён, той, што магчыма палянуецца навет прачытаць гэтыя радкі.

На гэтае самае пытаньне — чаму?, пастаўленае больш кампэтэнтнай асобе, атрымала кароткі адказ: ня было належнага падтрыманьня з боку грамадзтва.

Мы Беларусы на эміграцыі годна адзначылі 450-ыя ўгодкі беларускага друку адмысловымі акадэміямі, выстаўкамі як у беларускіх асяродках, гэтак і ў амэрыканскіх бібліятэках, рэфэратамі й цяглай навуковай працай сяброў БІНіМ-у над дасьледваньнем дзейнасьці Францішка Скарыны. Вялікая колькасьць асобаў прыймала ўдзел у гэтым, ахвяроўваючы свой час, працу й грошы. Але далёка ня ўсе. Падтрыманьне бальшыні абмежавалася да прысутнасьці на гэтых зборках ці выстаўках, а былі й такія, што й гэтае мінімальнае маральнае падтрымкі не захацелі даць.

А як-жа карысным і прыемным было-б для ўсяе нашае грамады, калі-б у гэным юбілейным годзе нашае старое культуры мы з асаблівай руплівасьцяй і з належнай увагай аднесьліся да нашага роднага друкаванага слова на эміграцыі й далі яму належнае падтрыманьне маральнае й матарыяльнае, ад чаго залежыць ягонае існаваньне.

Ня лёгка знайсьці гэтаму друкаванаму слову дарогу да сэрцаў людзкіх. У Мюнхэне ў розных падвалах буцьвеюць і нішчацца кніжкі выдавецтва „Бацькаўшчыны", а яны вельмі прыдаліся-б тут у Амэрыцы, дык узноў-жа патрэбная гэная дапамога, зацікаўленасьць і супрацоўніцтва, каб кніжкі гэныя траплялі ў рукі чытача.

Славіліся нашыя дзяды й прадзеды гэтым супрацоўніцтвам-дапамогай адзін аднаму ў патрэбе, склікалі талаку і браліся ўсе дружна за працу, калі прыходзіла кончая патрэба. Хай мне прабачаць паважаныя чытачы за ўмешваньне, ведама, мы Беларусы ня любім, калі нам нехта прыпамінае аб нявыкананым абавязку. А абавязкам гэтым на сяньня — ня даць замоўкнуць, памерці Скарынаўскаму друкаванаму слову, не дазволіць, каб памерла „Бацькаўшчына".

**З. Станкевіч**

ругах была прызнана, як другая афіцыйная, мова гэтых групаў. Камісія адкінула прапанову праф. Рудніцкага, але ён залучыў да паведамленьня Камісіі у Парлямант сваё сэпаратнае становішча, у якім прапануе вызначыць г. зв. рэгіянальны мовы ў акругах, дзе пераважае насельніцтва неангласаксонскае й нефранцускае.

● **Процікамуністычная дэманстрацыя Югаславаў** адбылася перад Югаслаўскім кансулятам у Таронта ў сувязі з 22-мі ўгодкамі заняцьця Югаславіі цітаўскім камуністычным рэжымам. Дэманстранты несьлі транспаранты з напісамі, што віталі прэзыдэнта Джансана за яго процікамуністычную пастанову ў Ветнаме й пратэставалі супраць дружбы Канадыйскага міністра замежных справаў П. Мартына з камуністычным блёкам. Супраць дэманстрантаў выступіла каля 50 чалавек канадыйскай паліцыі.

У выніку войстрай спрэчкі дэманстрантаў з паліцыяй дэманстрацыя была разагнаная коннай паліцыяй, ахвярай чаго стаўся фатограф СіБіСі, якога чуць што не здратавала коньмі. У гэтай суматосе прапаў асёл, які меўся прадстаўляць маршала Ціту.

## ДУМКІ Ў ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ

Ня штыхі й ня кулі — жаролы
гармат —
За адзіную зброю мы мелі каханьне,
Грэла сэрцы яно, хоць залеў
лістапад,
І расьлі ў рад магілы за намі."

**Натальля Арсеньнева**

Хіба й ёсьць найбольшай зброяй у змаганьні народу за сваё жыцьцё, за сваё самазахаваньне, як паэтка кажа, „каханьне".

„Каханьне", да каго? Да ўсяго свайго роднага: да свае гістарычнае й культурнае спадчыны, да свае мовы, свайго краю, свайго народу, да — адзін аднаго. Ня зьменіш людзкое натуры зь яе собскім самалюбствам. Не дасягнеш, — дый ня трэба, — ідэяльнага. Але здаецца, каб можна было злагодзіць вастрыё й знэўтралізаваць яд варажнечы, няпрыхільнасьці й злосьці між намі тым „каханьнем", што „грэла сэрцы" случчакоў — як здаравейшы быў-бы наш беларускі арганізм! Як шмат адпарнейшым быў-бы ён на русыфікацыю, ды іншыя сьмяротныя хваробы! Часам арганізм забівае сіла звонку, але найчасьцей — хвароба знутры.

Скуль узяць гэтае аружжа й лякарства? „Шукайце, а знойдзеце!"?

**Р. Ж.**



## БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЕНДАР НА 1968 ГОД

Япархіяльная Управа БАПЦарквы ў Амэрыцы, у вадзначэньне 20-ых угодкаў ад аднаўленьня Аўтакефаліі Беларускай Царквы, выдала ў Нью Ёрку календар-кніжку на 1968 год. Прыгожа й старанна выдадзены й багата ілюстраваны календар-кніжка абыймае 123 бачыны друку вялікага кніжнага фармату й, апрача календарнай часткі з паказаньнем старога й новага стылю ды пералікам праваслаўных сьвятаў і сьвятцаў, зьмяшчае папулярныя артыкулы зь гісторыі царквы, з жыцьця парахвіяў БАП-Царквы, артыкулы на гістарычныя тэмы ды выбраныя творы беларускіх паэтаў.

Зь ілюстрацыяў заслугоўваюць на асаблівую ўвагу каляровы крыж сьв. Еўфрасіньні Полацкай ды ўдала выкананая мастаком Пятром Міроновічам вокладка зь Петра-Паўлаўскім Саборам (званым у народзе Жоўтай Царквой) з XVI стг. у Менску.

Цана аднаго экзэмпляра для ЗША й Канады разам зь перасылкаю — 3 даляры; для краёў Эўропы й Аўстраліі — 20% таней. Купляць і выпісваць з парахвіяў БАПЦарквы.

## НА МІЖНАРОДНАЙ ВЫСТАЎЦЫ У ЧЫКАГА




**Мэр гораду Чыкага Рычард Дэйлі з прадстаўнікамі беларускага грамадзтва**

Леташняя Міжнародная Выстаўка ў Чыкага, што адбылася 21 і 22 кастрычніка, была добрай нагодай ушанаваць 450-ыя ўгодкі нашага першадрукара й вялікага гуманістага Францішка Скарыны. Спэцыяльнае месца ў беларускім стэндзе Выстаўкі было адведзенае для фотакопіяў Скарынаўскіх выданьняў — Псалтыра й кнігаў Бібліі. Прыгожы патрэт Францішка Скарыны, намаляваны ведамым беларускім мастаком зь Нью Ёрку Пятром Міроновічам, займаў пачэснае месца на сьцяне. Інфармацыі аб жыцьці й дзейнасьці Скарыны былі напісаныя паангельску.

Калі ў дзень адчыненьня Выстаўкі мэр гораду Чыкага Рычард Дэйлі затрымаўся пры нашым стоішчы, яму было паінфармавана пра ролю й значэньне Скарыны, як першага друкара ў Беларусі і Усходняй Эўропе. Мэр гораду выказаў прызнаньне нашаму аддзелу ды заахвочваў нас прадаўжаць далей працу ў кірунку інфармаваньня пра наш народ.

Вялікай атракцыяй аддзелу быў і гэтым разам наглядны паказ спняй Тарэсай Тарасэвіч мініятурных прыладаў для абробкі лёну, як мяліца, трапло, часальня, матавіла й снуйка. Яна шырака інфармавала англамоўных наведвальнікаў аб працэсе абробкі лёну на Беларусі ды паказвала розныя ўзоры льняных тканінаў, якія беларускія ткачыхі й цяпер вырабляюць у беларускіх вёсках.

Нашыя рознакалёрныя вышыванкі, падушкі, паясы, вязаныя кручком мухаморы й баравікі, што выглядалі, як быццам жывыя, дзяружкі ды іншыя саматкані прыцягвалі шмат наведвальнікаў.

Гэтак, як і пазалетась, мы ўжывалі назоў нашага краю ў беларускім гучэньні „БЕЛАРУСЬ" з ангельскім перакладам у дужках „Вайтрутэнія". Мусім прызнацца з радасьцяй і палёгкай, што амаль ніхто ня змешваў нас, як калісьці, з „Раша". Усім наведвальнікам было ясна, што назоў „Беларусь" быў больш адпаведны й лягчэй вымаўляўся, а для тых, што часта пыталіся, дзе знаходзіцца такая краіна, добрым дапаможнікам была вялікая арыентацыйная карта Беларусі.

Выступленьні беларускай танцавальнай групы таксама цешыліся вялікім посьпехам сярод наведвальнікаў. Прыгожа красаваліся дзявоцкія касьцюмы, вышытыя летась сп-няй Е. Жызьнеўскай. Трэба адзначыць, што яна ўвесь свой вольны час прысьвяціла на пашыцьцё восем дзявоцкіх касьцюмаў. Апрача ўкладу працы, яна й часткова фінансавала набыцьцё матарыялаў для касьцюмаў. Таксама ейнае работы й бальшыня вышываных блюзак і хвартухоў.

Нашая група вельмі ўдала выканала два народныя танцы: Кадрылю й Мікіту. Калі-ж кіраўнік агульнай праграмы Выстаўкі папрасіў выканаць больш танцаў, нажаль, нашая група не змагла прыгатаваць іх зь незалежных ад яе прычынаў. Два тыдні перад гэтым, калі ішло інтэнсыўнае прыгатаваньне да танцавальнага выступленьня, нашым танцорам было адмоўленае карыстаньне царкоўнай заляй Парахвіі Беларускай Праваслаўнай Царквы сьв. Юрага сьвятаром Алегам Міроновічам. Асабліва было дзіўным, што адмоўлена карыстацца заляй танцорам, якія якраз належаць да гэтай-жа парахвіі. Але апошнія пробы танцаў удалося правесьці ў залі пры Беларускай Царкве Хрыста Спаса.

Ад чатырох год практыкаваўся на гадавой Міжнароднай Выстаўцы звычай выбару каралевы. Летась на конкурсе выбару на каралеву Выстаўкі беларускую групу рэпрэзэнтавала сп-чня Ванда Гайдзель. Але працэдура выбару летась была спрошчаная: заміж журы, што пры выбары брала на ўвагу прыгожасьць кандыдатак ды іхную народную вопратку, выбар адбыўся спосабам лятэрыйным і на каралеву Выстаўкі трапіла Ірляндка.

Летась Беларусы ўпяршыню паказалі й сваё кулінарнае майстроўства. Жанчыны з арганізацыі Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага прыгатавалі добрыя й смачныя беларускія стравы, якія цешыліся вялікім попытам, а каса папоўнілася значным прыбыткам.

Да арганізацыі беларускага стоішча на Выстаўцы спрычыніліся сябры Беларуска - Амэрыканскай Моладзі ў штаце Іліной, Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной ды спадары Васіль Пунтус і Лявон Міранцоў ад Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага.

Дзякуючы супольнаму высілку й стараньням, беларускі аддзел на Выстаўцы вельмі добра прэзэнтаваўся, за што належыцца вялікае дзякуй кіраўніку беларускага аддзелу Выстаўкі сп. Мікодыму Жызьнеўскаму і ўсім сябром, што далі экспанаты, прыгожа ўладзілі самую Выстаўку ды інфармавалі англамоўных наведвальнікаў пра наш край.

**Д-р В. Р.**

## ПАДЗЯКА

За пасярэдніцтвам газэты „Беларус" складаю маю шчырую падзяку ўсім тым сябром, што прынялі ўдзел пры маім рукапалажэньні ў сан дыякана 9 сьнежня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку, а таксама й пры маім рукапалажэньні ў сан сьвятара 10 сьнежня 1967 г. у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Шчырыя й сардэчныя вітаньні ды гарачыя прамовы прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і асабістых прыяцеляў глыбака закранулі мае пачуцьці й дадалі мне моцы й упэўненасьці для мае цяжкое й адказнае пастырскае працы для нашае вольнае Беларускае Аўтакефальнае Царквы на прыдзеленым мне адрэзку.

Складаю таксама шчырую падзяку маім прыяцелям з Кліўленду за прысланыя вітаньні й ахвяры на аблачэньні наступнымі асобамі: сп. сп. Васіль Семянчук — 50 дал., Андрэй Стрэчань — 50 дал., Янка Лукашэвіч — 20 дал., К. Грынкевіч — 10 дал., В. Сьпічонак — 10 дал., Т. Кананчук — 10 дал., Сяргей Карніловіч — 10 дал., Кастусь Калоша — 10 дал., В. Лукашэвіч — 5 дал., Кастусь Кіслы 5 дал., Уладзімер Дунец — 5 дал.

**а. Васіль Кендыш**

# ЗЬ ЛІТАРАТУРНАЙ НІВЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Перад намі першы зборнік вершаў беларускага паэты Беласточчыны Віктара Швэда „Жыцьцёвыя сьцежкі”, што быў выдадзены ў 1967 годзе Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыствам у Беластоку. Віктар Швэд адзін з найбольш дзейных сяброў заснаванага ў 1958 годзе ў Беластоку беларускага літаратурнага згуртаваньня „Белавежа”. Апрача штогодніх календароў, у якіх друкуецца шмат літаратурных твораў, ды літаратурных альманахаў, сябры згуртаваньня „Белавежа” выдаюць і асобныя зборнікі сваіх твораў. Пасьля зборніка А. Барскага „Белавескія матывы” й Я. Бурша „Прамень думкі”, зборнік Віктара Швэда „Жыцьцёвыя сьцежкі” ўжо трэйці з парадку.

Галоўныя ідэйныя й мастацкія асаблівасьці творчасьці Швэда вызначае першы разьдзел зборніка, загалоўлены „Бацькоўскі кут”. Ён зьмяшчае вершы нацыянальна-патрыятычнага характару, у якіх паэта вылівае гарачыя й шчырыя пачуцьці любасьці да ўсяго свайго роднага: да вёскі, ейных жыхароў, народных звычаяў і песьняў, прыроды роднага краю, ягонае нацыянальнае мінуўшчыны, а над усё — да сваёй роднай мовы. Прыводзім гэтта ягоны верш „Родная мова”, як адзін з найбольш тыповых для Швэдавай творчасьці й найбольш удалых з мастацкага боку:

*Мова ты родная, мова прыгожая,*
*Як-жа мы можам цябе ня любіць.*
*Ты пратрывала атакі варожыя,*
*Ня здолеў ніхто цябе пакарыць.*

*Ты пад страхою знайшла саламянаю*
*Прытулак ад цяжкай навалы, нягод,*
*Цябе, мова, носіць зь вялікай пашанаю*
*У сэрцы сваім беларускі народ.*

*Паднятая сілай Купалы і Коласа,*
*Змагла ты правы свае адстаяць.*
*Змагла ты дайсьці да магутнага голасу*
*І месца пачэснае ў сьвеце заняць.*

*Калі нехта скажа: ёсьць мовы мілейшыя,*
*Яму адказаць я заўсёды гатоў:*
*Найпрыгажэйшая, найдаражэйшая*
*Мова зямлі роднай, мова бацькоў.*

Верш гэты добра паказвае дзьве галоўныя асаблівасьці патрыятычнае лірыкі Віктара Швэда. З аднаго боку, у вершы гэтак і вычуваецца паэтычны лад і сфармуляваньне думак, характэрныя яшчэ нашаніўскай паэзіі, у дадзеным выпадку патрыятычнай лірыцы Янкі Купалы й Якуба Коласа. І ў шмат якіх іншых вершах таксама вычуваецца выразнае падабенства да нашаніўскае паэзіі, чаго, аднак, нельга ставіць Швэду, як дакор ці загану, бо, як правільна заўважыў у сваёй рэцэнзіі на гэты зборнік у „Літаратуры і Мастацтве” М. Прашковіч, „гэта не запазычаньне, ня перайманьне”, а найбольш арганічная якасьць паэзіі Швэда. Яна зроджаная спэцыфічнымі абставінамі сяньняшняга нацыянальнага жыцьця ў Беласточчыне, шмат у чым падобнымі да абставінаў у часох нашаніўства ў цэлай Беларусі. З другога боку, сваім услаўленьнем роднае мовы й стаўляньнем знаку роўнасьці між ёю й нацыянальнай патэнцыяй Беларусаў наагул, патрыятычная лірыка Швэда ўліваецца ў вадно супольное русло з творчасьцяй сучасных паэтаў Савецкае Беларусі.

Наступны вялікі разьдзел зборніка „Кот мурлыка” зьмяшчае вершы для дзяцей. У вобразах з жыцьця зьвяроў і расьлінаў, у гумарыстычных сытуацыях, пераважна запазычаных з фальклёрнае паэзіі, паэта прышчапляе гэтымі вершамі малому чытачу цікавасьць і любасьць да прыроды. Апошні разьдзел зборніка „Выбачайце, калі ласка” зьмяшчае вершы гумарыстычныя й сатыру на розныя заганы ў сучасным жыцьці. У бальшыні зь іх таксама выразны ўплыў фальклёрных матываў.

Вершы Віктара Швэда сваёй прасьцінёй, сялянскімі матывамі, здаровым гумарам і досьціпам, а над усё — шчырасьцяй і беспасярэднясьцяй пачуцьцяў павінны быць вельмі прыхільна прынятыя масавым сялянскім чытачом, служыць яму прыемнай і карыснай лектурай.

Віктар Швэд патрабуе йшчэ й вельмі ўважлівай і зычлівай дапамогі з боку крытыкі, якой, на жаль, не дае яму ў згаданай рэцэнзіі М. Прашковіч. Паважнай заганай Швэдавых вершаў — беднасьць і аднастайнасьць ягонае паэтычнае мовы, убоства й бледнасьць паэтычных вобразаў. Разам з гэтым, у ягонай мове й цімала русыцызмаў, як „з тых пор”, „дараваньне”, „урок”, „абрываючыяся струны”, „буквар”, „алфавіт”, „прахожы”. Даволі часта паэта дасягае рытмічнага ладу верша коштам няправільнай акцэнтацыі словаў: блытаецца, замiж блытаецца, палечыць, заміж палячыць, вызваліцца, заміж вызваліцца, баючыся, заміж баючыся, Левана, заміж Лявона.

Сваю аўтабіяграфію, надрукаваную ў зборніку, Швэд канчае гэтак: „Хачу толькі сказаць адно: не магу ня пісаць. Ад гэтай працяглай „хваробы”, якая мяне поўнасьцю апанавала, сапраўды цяжка вылячыцца”. І ня трэба вылечвацца! — адкажам Швэду. Паэта мае здаровыя паэтычныя задаткі, шчырае й гарачае сэрца, сьвядомасьць высокага абавязку служэньня мастацкім словам роднаму народу. Адно трэба быць больш патрабавальным да самога сябе, а дзеля ўзбагачэньня паэтычнай мовы трэба глыбей і шырэй, а галоўна сьмялей карыстацца моваю народнай.

**С. Станкевіч**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў ЧЫКАГА

Гэтак сталася, што далёка ня ўсе выпадкі зь беларускага нацыянальна-культурнага жыцьця ў Чыкага адзначаліся летась на бачынах „Беларуса”. Дзеля гэтага падаём тут кароткі пералік адно найважнейшых мамэнтаў з гэтага жыцьця за ўвесь леташні год. І так:

● 22 студзеня 1967 году быў зладжаны ў Чыкага канцэрт Музычнай Школы праф. Міколы Кулііковіча. Выступала звыш 20-ці дзяцей рознага веку, якія выказалі добрыя поступы ў ігры на фартапіяне. Напошку сп-ня Надзея Градэ прапяяла некалькі песьняў.

Падобныя канцэрты праф. Куліковіч ладзіць раз або два разы ў год. Зь дзяцей чыста беларускіх сем’яў музыкі вучыцца Ірэна Мароз, а зь сем’яў мяшаных — Міхась і Вольга Валатоўскія, Ірэна Грэч, Юрка Сенік, Ірэна й Гэнрык Янчэўскія, Лёра Чарняўская й Тамара Кузьменка.

● 10 сакавіка ў паўночна-заходнім раёне гораду Чыкага быў зладжаны экумэнічны вечар малітваў у залі вышэйшай школы Джозэфінум, у якім узялі ўдзел і прадстаўнікі Беларусаў. Тут маліліся разам каталікі, праваслаўныя й пратэстанты паводля аднаго малітэўнага тэксту, а на зьмену забіралі голас сьвятары паасобных рэлігіяў. Наапошку паводля альфабэтычнага парадку прадстаўнікі нацыянальных групаў, што засяляюць паўночна-заходнюю часьць гораду, прэзэнтавалі перад аўтаром свае нацыянальныя сьцягі. Наш беларускі сьцяг несьлі прыбраныя ў народныя касьцюмы Эва Кавальчык, Вера Рамук, Мікодым Жызьнеўскі й Мікола Кучура. Сярод прысутных у залі Беларусаў быў а. Янка Тарасэвіч.

● 18 сакавіка беларуская група прыймала ўдзел у высвячэньні месца пад будову публічных жыльлёвых дамоў для жыхароў паўночна-заходняй часткі гораду. Перад трыбунай, на якой знаходзіўся мэр гораду Дэйлі, колькі кангрэсмэнаў і прадстаўнікі рэлігійнага, навуковага й гандлёвага сьвету, апрача розных арганізацыяў, школаў і аркестраў, таксама машыравалі із сваімі нацыянальнымі сьцягамі й надпісамі назоваў краёў паходжаньня й наступныя нацыянальныя групы: Беларусы, Ірляндцы, Нарвэжцы, Італьянцы, Палякі, Немцы, Швэды, Сэрбы, Славакі, Вугорцы, Мэксыканцы, Летувісы й Партарыканцы.

● Беларусы Чыкага ўпяршыню прыймалі актыўны ўдзел у выбарнай кампаніі мэра гораду й стапрацэнтава падтрымалі кандыдатуру дэмакратычнага кандыдата Рычарда Дэйлі, які быў выбраны ўжо чацьверты раз на гэтае становішча бальшынёй 512 тысячаў галасоў супраць свайго рэспубліканскага канкурэнта. Дзеля правядзеньня кандыдатуры Рычарда Дэйлі, які раней выказаў прыязныя дачыненьні да ўсіх нацыянальных групаў, быў утвораны з групаў паняволеных народаў адмысловы перадвыбарны камітэт, у які ўваходзілі й Беларусы. 27 сакавіка мэр Дэйлі сустрэўся із сябрамі гэтага камітэту. Ад Беларусаў зьявілася на гэтую сустрэчу восем чалавек у народных вопратках. Апрача мэра Дэйлі, прамаўлялі й прадстаўнікі ад нацыянальных групаў. Ад Беларусаў прамаўлялі дзьве асобы: Вера Рамук ад імя ўсяго беларускага грамадзтва Чыкага й Г. Салавей — ад Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага.

Найбольшым гонарам для Беларусаў быо тое, што спасярод 19-ці нацыянальных групаў мэр гораду запрасіў нашага наймалодшага прадстаўніка 4-охгадовага Янку Рамука й адну малую Кубінку сфатаграфавацца разам зь ім, жадаючы Янку Рамуку стацца ў будучыні мэрам гораду Чыкага. Назаўтрае фатаграфія зьявілася ў найбольшай англамоўнай газэце „Тэ Чыкаго Трыбюн.”

● Каб ушанаваць нашых мамаў і татаў, Танцавальная Група Беларускай Моладзі зладзіла 11-га чырвеня Дзень Бацькоў у залі пры Царкве Хрыста Спаса. У праграме былі беларускія народныя танцы, песьні, музыка й вершы, пасьля ўсяго адбыліся агульныя танцы.

У праграме бралі ўдзел вучні музычнай школы праф. М. Куліковіча й сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў штаце Іліной. Адчыніў урачыстасьць старшыня АБАМСІ Мікодым Жызьнеўскі, а з прывітальным словам да нашых мамаў і татаў выступіла Лёра Благута. Вера Рамук прапяяла пад акампаніямант праф. М. Куліковіча й ягонай кампазыцыі дажынковую песьню „Ды ўжо сонейка” й песьню лірычную „А ў полі вярба”. Ірэнка Рамук сказала вершык „Маці-Беларусі”, а Эма Каваленка прапяяла песьню ў польскай мове „Сэрца маткі” ды францускую песьню „Домінік”. Ірэна Мароз выканала на фартапіяне „Люблю наш край” і „Ці ўсе лугі пакошаны”, а Габрыеля Багдан — „Падаючыя клаўны”. Міхась Багдан, брат Габрыелі, зайграў адну амэрыканскую песьню. Янка Рамук прадэклямаваў вершык „Пчолка”. Дзяўчаты з Танцавальнай Групы пратанцавалі Кадрылю, Мікіту й Лявоніху. На заканчэньне Янчэўскі із сынам прайгралі два клясычныя дуэты на клярнэце й піяніне.

На самым канцы Танцавальны Гурток ушанаваў нашых заслужаных мамаў—Аўдакію Жызьнеўскую, Марыю Шпакоўскую й Веру Рамук ды нашага грамадзкага тату — праф. М. Куліковіча, прышпіляючы ім кветкі ды ўручаючы сьціплыя падаркі.

● 8 ліпеня на стадыёне Поле Жаўнера адбылося салютаваньне амэрыканскага сьцягу, у якім прыняло ўдзел 10 тысячаў матросаў. Сярод ганаровых гасьцей, на запросіны мэра Дэйлі, знаходзілася й некалькі беларускіх сем’яў.

● 15 ліпеня адбыўся ў Чыкага парад Тыдня Паняволеных Народаў. Прыймалі ў ім удзел прадстаўнікі гэткіх народаў: Беларусы, Баўгары, Альбанцы, Украінцы, Палякі, Харваты, Славакі, Чэхі, Немцы з Усходняй Нямеччыны, Казакі, Эстонцы, Латышы, Летувісы, Кітайцы, Карэйцы, Сэрбы й Армяне. Параду прыглядалася каля 50 тысячаў асобаў. Дэманстранты несьлі транспарэнты з напісамі, у якіх дамагаліся свабоды для паняволеных камунізмам народаў ды выказвалі падтрыманьне палітыкі Амэрыкі ў Ветнаме. Ганаровымі гасьцямі гораду былі вэтэраны Ветнамскай вайны. На беларускіх плякатах віднеліся гэткія напісы: „Дамагаемся вольнасьці й незалежнасьці для Беларусі”, „Беларусь — край Доктара Францішка Скарыны — пазбаўленая незалежнасьці камуністычнай Расеяй”, „Ушаноўваем нашых сыноў, што змагаюцца за вольнасьць Паўдзённага Ветнаму”.

Пасьля параду адбыўся банкет у гатэлі Конрад Гілтан, на якім было прысутных 10 чалавек Беларусаў, у тым ліку й госьць з Ангельшчыны а. Робарт Тамушанскі.

● 17 верасьня ўкраінскае грамадзтва ў Чыкага ладзіла акадэмію з нагоды 50-ых угодкаў аднаўленьня ўкраінскае дзяржавы й 25-ых угодкаў Украінскай Паўстанскай Арміі. На акадэміі былі й прадстаўнікі ад Беларусаў.

● 25 лістапада ў Чыкага быў зарганізаваны акт пратэсту супраць прыезду ў Амэрыку мітрапаліта Нікадзіма з Масквы. У пратэсце прынялі актыўны ўдзел і Беларусы.

Пратэстам кіраваў адмысловы камітэт хрысьціянаў, да якога далучыліся й групы паняволеных народаў. А 10-ай гадзіне раніцы камітэт склікаў прэсавую канфэрэнцыю з удзелам прэсы, радыя й тэлевізіі, а пасьля сябры камітэту накіраваліся да Музэю Мастацтва, дзе адбыўся пратэстацыйны мітынг. Сярод пратэстуючых было шмат сьвятароў. На плякатах віднеліся гэткія напісы: „Нікадзім — чырвоны шпіён”, „Нікадзім — тайнай паліцыі агент”, „Сьвятар у воўчай скуры” й шмат іншых.

**В. Р.**

# ЮБІЛЕЙ СПАДАРСТВА КУМЭЙШАЎ



**Пасярэдзіне сп-ва Кляра й Мікола Кумэйшы зь левага боку — сын Аўген, а справага — сын Міраслаў**

У сыботу 11 лістапада ў Дэтройце спадарства Кляра й Мікола Кумэйшы адзначалі 25-годзьдзе свайго сужэнства або сярэбраны юбілей. Юбіляры падрыхтаваліся да гэтае сямейнае ўрачыстасьці вельмі старанна („Малады” навет вусікі запусьціў).

Вялікі дом сп-ва Кумэйшаў ледзьве мог зьмясьціць усіх гасьцей, якіх зышлося больш за паўсотню. Сталы аж гнуліся ад смачна падрыхтаванае ежы й напіткаў.

Мікола й Кляра Кумэйшы зьяўляюцца актыўнымі сябрамі беларускай калёніі ў Дэтройце, асабліва Мікола Кумэйша старанна выконвае функцыі старасты Дэтройцкае парахвіі БАПЦарквы. Таму ня дзіўна, што на юбілейным вечары было шмат афіцыйных і сяброўскіх прывітаньняў, пажаданьняў ды пацалункаў, а найбольш, мабыць, розных падаркаў, якіх назьбіралася цэлая гара. Усё таварыства забаўлялася разам з гаспадарамі вельмі весела й далёка за поўнач.

Шмат год Вам, Мікола і Кляра! Да пабачаньня на залатым юбілеі Вашага шлюбу! **П. М.**

## *ХРОНІКА З КЛІЎЛЕНДУ*

● Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўлендзе ладзіла 1 кастрычніка летась традыцыйны Кярмаш. Быў прыгатаваны смачны абед і лятарэя, на якой усе білеты былі выйгрышныя. Рэчы на лятарэю былі падараваныя сяброўкамі Згуртаваньня. Некаторыя зь іх былі вялікае вяртасьці, а таму даход быў вельмі добры.

За такое ўмелае зарганізаваньне імпрэзы належыцца пахвала самой старшыні Згуртаваньня сп-ні Клаўдзі Калядзе й іншым жанчынам, што памагалі ёй. Варта адзначыць, што Жаноцкае Згуртаваньне заўсёды прыходзіць з выдатнай грашавой дапамогай БАПЦаркве, а цяперака закупіла пяць акцыяў Беларускага Нацыянальнага Цэнтру „Полацак”.

● 22 кастрычніка адбыўся сход сяброў карпарацыі Беларускага Нацыянальнага Цэнтру „Полацак”. Зямля пад цэнтр купленая за 80 тысячаў даляраў у стрэфе самога гораду, хоць і воддаль ад гарадзкіх забудаваньняў. Сп. сп. С. Карніловіч і К. Калоша, што вялі справу куплі, здалі справаздачу з праробленае работы й далі дакладную інфармацыю. Новы Камітэт карпарацыі быў выбраны ў складзе: С. Карніловіч — старшыня, А. Міраеўскі — віцэ-старшыня, К. Калоша — сакратар і скарбнік, А. Стрэчань і Лёля Міхальчык — сябры.

● 19 лістапада Парахвія БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ладзіла традыцыйны абед зь індыком з нагоды Дня Удзячнасьці. У перапоўненай царкоўнай залі прысутныя спачатку прапяялі малітву, а а. Аляксандар паблагаславіў сталы з багатымі закускамі, прыгатаванымі жанчынамі. Старшыня Царкоўнае Управы сп. В. Радзюк прывітаў прысутных, а а. Аляксандар прачытаў рэфэрат пра амэрыканскае сьвята Дня Удзячнасьці. Калі ўсе добра падсілкаваліся й направілі настрой, распачаліся сьпевы.

● 3 сьнежня Кліўлендзкі Аддзел БАЗА ладзіў сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля звычайнае Літургіі ў царкве а. Аляксандар адслужыў Паніхіду па ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына. Папаўдні адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная ўгодкам, якую ў кароткіх словах адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА сп. С. Карніловіч. Прысутныя ўшанавалі памяць гэрояў хвілінаю цішыні, пасьля чаго быў прапяяны жалобны марш. Рэфэрат пра Слуцкае Паўстаньне прачытаў а. Аляксандар, пасьля якога адбылася сьціплая мастацкая праграма. На заканчэньне ўсе прысутныя прапяялі беларускі нацыянальны гімн.

**Ул. Д.**

## БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ



Нядаўна Беларусы Нью Брансьвіку мелі прыемнасьць гуляць на вясельлі сп. Віктара Дубягі й сп-шні Алы Лосік. Асабліва было прыемна пабыць на вясельлі людзей, якія ўвесь час зьяўляюцца прыкладнымі сябрамі як у сьвецкіх беларускіх арганізацыях — БАЗА й ЗБМА, гэтак і ў царкоўным жыцьці.

Шлюб даваў мітр. прат. а. Сьцяпан Войтэнка ў БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку. У дружбе было шэсьць параў беларускае моладзі. Надвор’е добра спрыяла — была сонечная прыгожая пагода, — а таму сябры й пастанавілі атрымаць яшчэ й выкуп за праход маладых праз дзьверы на вуліцу. Тут сваты сп. сп. Місюль і Лысюк пусьцілі ў ход усе свае дыпляматычныя здольнасьці ў вабароне маладое пары. Пасьля паўгадзіннага таргаваньня дабіліся таго, што згадзіліся на пастаўленыя ім умовы й заплацілі за праход.

Вясельле адбывалася ў Лібэрты Балрум у Саўт Рывэры. Вельмі добрыя й смачныя стравы былі падрыхтаваныя сп-няй Соняй Дубягай. Пасьля вясельля, маладая пара выехала правесьці свой мядовы месяц на Бэрмуды.

На вясельлі маладым жадалі „Сто год” і „Многае лета”. Хочацца яшчэ пажадаць: Шчасьці, Божа, у Вашым новым жыцьці!

**Ул. Бакуновіч**

## НАВАГОДНЯЯ ВЕЧАРЫНА Ў ТАРОНТА

31-га сьнежня, у нядзелю, у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры адбылася традыцыйная навагодняя вечарына зь вячэрай.

Супольнай сям’ёю, у сьвяточным настрoi, з музыкай і скокамі Беларусы разьвіталіся із старым 1967 годам ды сустрэлі з новымі надзеямі й найлепшымі ўзаемнымі пажаданьнямі Новы 1968 Год.

Імпрэза, якую ладзіла З.Б.К., была ўдалай пад кажным паглядам — сяброўскім, маральным і матар’яльным. Між тымі, што спрычыніліся да яе ўдачы, найболей вырозьніваецца ўкладам працы сям’я Ганькоў ды Рудніцкіх, за што ім належыцца дзякуй!